










АГУЛЬНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА РАСПАЎСЮДЖВАЕЦЦА Ў 48 КРАІНАХ

# Голас Радзімы

27 верасня 2000 года
Цана 90 рублёў

№ 39 (2701)

Штотыднёвая газета для суайчыннікаў за межамі Беларусі
Выдаецца з 6 красавіка 1955 года


**АЛІМПІЯДА-2000**





**Лік медалёў зборнай Беларусі на XXVII Алімпійскіх гульнях адкрыў выдатны майстар кулявой стральбы Ігар БАСІНСКІ. У "нелюбімай" стральбе з пнеўматычнага пісталета на дыстанцыі 10 метраў беларус атрымаў бронзавую ўзнагароду.**

**Наступны старт у стральбе з малакалібернага пісталета быў яшчэ больш удалы. Басінскі стаў сярэбраным прызёрам.**

**Фота Генадзя СЯМЁНАВА.**

*Сіднэй, Аўстралія.*

**ВЫБАРЫ**

Міністэрства замежных спраў рыхтуецца да ўдзелу грамадзян Рэспублікі Беларусь, якія маюць выбарчае права і знаходзяцца за межамі Беларусі, у выбарах дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу.

За межамі Рэспублікі Беларусь створана 42 участкі для галасавання, якія пастановаю Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў ад 18 жніўня 2000 года прыпісаны да дзвюх выбарчых акруг:

✦ Купалаўскай выбарчай акругі № 95;

✦ Коласаўскай выбарчай акругі № 105.

У склад участковых камісій у адпаведнасці з заканадаўствам уключаны ад 3 да 11 грамадзян Рэспублікі Беларусь.

*Участковыя выбарчыя камісіі размяшчаюцца ў памяшканнях замежных устаноў Рэспублікі Беларусь.*

**Прэс-служба МЗС.**

**ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫІ**

## «ЗАГАДКА» ПРЫРОДЫ

**Днямі міністр эканомікі Уладзімір ШЫМАЎ у Нацыянальным прэс-цэнтры прааналізаваў сітуацыю, якая склалася ў эканоміцы краіны за 8 месяцаў бягучага года, ацаніўшы яе як "вострую", але... "станоўчую".**

Па словах кіраўніка Мінэканомікі, сёння ў нас назіраецца рост унутранага валавога прадукту (УВП): планавалі прырост у памеры 2—3 працэнтаў, атрымалі — 4; па завяршэнні 2000 года мяркуецца дасягнуць нават пяць працэнтаў. Галоўны "здабытчык" УВП, як гэта было і раней, — прамысловасць: тут прырост 7,8 працэнта.

Горш справы ідуць у сельскай гаспадарцы, дзе прагнозы пакуль не спраўдзіліся: за восем месяцаў здолелі дасягнуць узроўню толькі 98,5 працэнта да адпаведнага перыяду мінулага года. Аднак з улікам збору добрага ўраджаю міністэрства спадзяецца, што напрыканцы года прырост УВП таксама складзе каля пяці працэнтаў. Усё гэта надае Мінэканомікі пэўныя надзеі на развіццё аграрнага сектара ў самай недалёкай будучыні.

Не дацягваем мы крыху і ў інвесціраванні: хацелі два працэнты, маем жа — 1,3.

Па ўзроўню дабрабыту беларусаў, рэальных даходаў — карціна даволі стракатая і неадназначная. За студзень — жнівень нашы рэальныя даходы ўзраслі на 14 працэнтаў, зарплата — на 10... І ўсё ж Уладзімір Мікалаевіч лічыць, што пастаўленая Прэзідэнтам Аляксандрам Лукашэнкам задача па нарошчванню рэальных даходаў насельніцтва (сярэдняя зарплата — 100 долараў) можа быць цалкам выканана.

Што тычыцца знешнеэканамічнай палітыкі, яна, як заўважыў міністр, стрыжань жыццядзейнасці Беларусі. Калі разглядаць у доларавым эквіваленце, тут у нас назіраецца значнае паляпшэнне: экспарт узрос на 25 працэнтаў, імпарт — на 35. Аднак гэтая розніца прывяла да павелічэння адмоўнага сальда — мінус 686 мільёнаў долараў. Прычыны тут зразумелыя: сярэднямесячныя экспартныя цэны ўзраслі на 22 працэнты, а імпартныя — на 29. Адсюль і мінус... Калі ж паглядзець на вынікі фізічных аб'ёмаў экспарту і імпарту, сітуацыя вымалёўваецца трохі іншая: экспарт расце больш высокімі тэмпамі (на 6,3 працэнта), чым імпарт (на 5,9).

Напрыканцы Уладзімір Шымаў заўважыў, што прагноз развіцця айчыннай эканомікі на 2001 год у параўнанні з папярэднімі гадамі мае шэраг спецыфічных асаблівасцей: па большасці цэн Беларусь выйшла на ўзровень сумежных краін. Сёння дзяржава фактычна пачынае новы перыяд — уваходзіць у сферу дзейнасці канцэпцыі сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі на 2001—2005 гады; з сярэдзіны верасня жывем ва ўмовах адзінага валютнага курса, а гэта накладвае пэўныя абавязкі на кіруючыя органы ў плане падтрымання беларускага рубля, устойлівасці яго курса.

Словам, эканоміка краіны, як падкрэсліў міністр, у прынцыпе, мае рэальныя магчымасці для далейшага росту, таму сацыяльным аспектам развіцця грамадства будзе надавацца больш увагі...

Усё гэта, зразумела ж, вельмі радуе. Але на фоне штогадовага росту айчынных эканамічных паказчыкаў простаму народу чамусьці жывецца ўсё цяжэй і цяжэй.

"Загадка" прыроды!

**Алесь МЯСНІКОЎ.**

ТРЭЦІ III МІЖНАРОДНЫ КАНГРЭС БЕЛАРУСІСТАЎ

## ДА ВЕДАМА ЎДЗЕЛЬНІКАЎ ДРУГОЙ СЕСІІ

5—6 снежня 2000 года пройдзе другая сесія III Міжнароднага кангрэса беларусістаў пад назвай "Беларуская культура ў дыялогу цывілізацый". Тэматыка сесіі адпавядае праграме ЮНЕСКА на 2001 год, які абвешчаны гэтай міжнароднай арганізацыяй Годам дыялога цывілізацый. Прадугледжана работа чатырох секцый: "Што нясе глабалізацыя: узаемаўзбагачэнне нацыянальных культур ці іх уніфікацыю?", "Фарміраванне нацыянальнай свядомасці і дзяржаўнасці беларускага народа ва ўзаемадзеянні з аналагічнымі працэсамі ў суседніх краінах", "Беларуская дыяспара як пасрэдніца ў дыялогу цывілізацый", "Дыялог як сродак вырашэння супярэчнасцей паміж этнічнымі і канфесійнымі супольнасцямі Беларусі".

На другую сесію кангрэса паступіла звыш 130 заявак з 14 краін, што колькасна цалкам задавальняе аргкамітэт. Аднак трэба адзначыць, што асобныя актуальныя пытанні, мяркуючы па заяўках, застануцца без адказу.

**Ці пагражаюць глабалізацыя і віртуалізацыя беларускай культуры? Ці з'яўляецца яна раўнапраўным партнёрам у гэтым працэсе? Што можа яна супрацьпаставіць уніфікацыі (саветызацыі, вестэрнізацыі)? Ці вядзе мабільнасць абмену каштоўнасцямі да ўзнікнення новых форм культуры? Хто ў нас удзельнічае ў дыялогу — эліты ці масы? Калі паступяць заяўкі на даклады па ўказанай праблематыцы, аргкамітэт гатовы разгледзець іх дадаткова.**

**Аргкамітэт.**

**ГАВОРЫЦЬ РАДЫЁ «СТАЛІЦА»**

**Два гады ў FM эфіры гучаць гэтыя пазыўныя. Радыё "Сталіца" — адзіная беларускамоўная праграма на FM хвалях — прыцягвае ўсё больш слухачоў. Поспехаў вам, калегі!**

Радыё "Сталіца" слухайце на хвалях FM:

✦ Гомель, Добруш — 100,1.
✦ Гродна, Скідзель — 100,5.
✦ Брагін, Хойнікі — 100,8.
✦ Магілёў, Шклоў — 100,9.
✦ Беразіно — 100,7.
✦ Смаргонь — 101,4.
✦ Пінск — 102.
✦ Полацк, Ушачы — 102,7.
✦ Салігорск, Слуцк — 102,8.
✦ Ліда, Воранава — 103,3.
✦ Мінск, Брэст — 103,7.
✦ Мазыр, Калінкавічы — 103,8.
✦ Мсціслаў — 102,9.
✦ Мядзель, Вілейка — 103,9.
✦ Бабруйск — 104,1.
✦ Віцебск — 105,5.

NEWS FROM BELARUS * БЕЛОРУССКИЕ НОВОСТИ * BIALORUSKIE WIADOMOSCI * NOTICIAS DE BELARUS

**АРМІЯ**

Пераемнікамі баявых традыцый паветрана-дэсантных войск, якім сёлета спаўняецца 70 гадоў, сталі мабільныя сілы Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь. Яны з'яўляюцца самым маладым родам войск беларускай арміі. Акрамя бронемашын дэсанта, у іх на ўзбраенні сёння бронетранспарцёры, сродкі ППА, самаходныя артылерыйскія ўстаноўкі. У падраздзяленнях і часцях поўным ходам ідзе баявая вучоба, аснову якой складае парашутна-дэсантная падрыхтоўка. З парашутам у мабільных сілах скачуць усе — ад камандзіра часці да дзяўчыны-повара. Як у 350-й асобнай мабільнай брыгадзе, якой камандуе гвардыі палкоўнік Іван Гардзейчык.

НА ЗДЫМКАХ: разведвальны дазор дэсантнікаў; снайпер-разведчык гвардыі радавы Віталь ДАБРЫЯН.






**ДЫПКУР'ЕР**

**БЕЛАРУСЬ З АФІЦЫЙНЫМ ВІЗІТАМ НАВЕДАЎ ПРЭМ'ЕР-МІНІСТР САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ РЭСПУБЛІКІ В'ЕТНАМ ФАН ВАН КХАЙ.**

**У ХОДЗЕ ВІЗІТУ АДБЫЛІСЯ СУСТРЭЧЫ КІРАЎНІКА В'ЕТНАМСКАЙ ДЭЛЕГАЦЫІ З ПРЭЗІДЭНТАМ БЕЛАРУСІ АЛЯКСАНДРАМ ЛУКАШЭНКАМ, ПРЭМ'ЕР-МІНІСТРАМ УЛАДЗІМІРАМ ЯРМОШЫНЫМ, ПАРЛАМЕНТАРЫЯМІ.**

**ПРАГРАМАЙ ВІЗІТУ ПРАДУГЛЕДЖВАЛАСЯ НАВЕДВАННЕ ВА "МІНСКІ АЎТАМАБІЛЬНЫ ЗАВОД" І НАЦЫЯНАЛЬНАГА МАСТАЦКАГА МУЗЕЯ.**

**НА СУСТРЭЧЫ В'ЕТНАМСКАЙ ДЭЛЕГАЦЫІ З ПРАДСТАЎНІКАМІ ДЗЕЛАВЫХ КОЛАЎ БЕЛАРУСІ ВЫСТУПІЎ ПРЭМ'ЕР-МІНІСТР РЭСПУБЛІКІ В'ЕТНАМ ФАН ВАН КХАЙ.**

### *СУПРАЦОЎНІЦТВА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ І САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ РЭСПУБЛІКІ В'ЕТНАМ*

Дыпламатычныя адносіны паміж Рэспублікай Беларусь і Сацыялістычнай Рэспублікай В'етнам устаноўлены 24 студзеня 1992 года.

З красавіка 1997 года Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом СРВ у Беларусі (па сумяшчальніцтву) з'яўляецца Нго Тат То.

У снежні 1997 года Гандлёвае прадстаўніцтва Рэспублікі Беларусь у СРВператворана ў пасольства. Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Рэспублікі Беларусь у СРВ з'яўляецца Алег Чакункоў.

### *ГАНДЛЁВА-ЭКАНАМІЧНАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА*

У 1999 годзе таваразварот Рэспублікі Беларусь з Сацыялістычнай Рэспублікай В'етнам склаў 31,421 мільёна долараў ЗША, пры гэтым экспарт склаў 23,724 мільёна долараў, імпарт — 7,697 мільёна долараў.

Таваразварот за перыяд студзень — ліпень 2000 года склаў 14,906 мільёна долараў ЗША, экспарт — 9,983 мільёна долараў, імпарт — 4,923 мільёна долараў.

У гандлі Беларусі з В'етнамам у 1999 годзе паглыбіліся тэндэнцыі дыверсіфікацыі беларускага экспарту: значна пашырыліся як аб'ёмы паставак, так і наменклатура прамысловых і іншых тавараў. У 1999 годзе ў В'етнам былі пастаўлены ўдабрэнні, матацыклы, самазвалы "БелАЗ", аўтамабілі "МАЗ", запасныя часткі да беларускай тэхнікі, тканіны і іншыя тавары. З В'етнама — рыс, арэхі, шыны, спецыі, каўчук натуральны, прадукцыя раслінага паходжання. У апошні час пашыраецца наменклатура в'етнамскага экспарту ў нашу краіну.

У Беларусі зарэгістравана 6 прадпрыемстваў з удзелам в'етнамскага капіталу. Доля інвестараў з В'етнама ва ўстаўным капітале гэтых прадпрыемстваў складае 263 тысячы долараў ЗША. Асноўная сфера дзейнасці прадпрыемстваў — аптовы гандаль.

Перспектыўныя галіны супрацоўніцтва Рэспублікі Беларусь з СРВ — аўтамабілебудаванне, трактарабудаванне, электроніка, аптычнае прыборабудаванне, машынабудаванне. Ёсць магчымасці стварэння дадатковых зборачных вытворчасцей мінскіх матацыклаў, павелічэння паставак бытавых тавараў, калійных удабрэнняў, хімічных валокнаў, кантрольна-вымяральных прыбораў, запасных частак да тэхнікі беларускай вытворчасці, якая выкарыстоўваецца ў СРВ... В'етнамскі бок зацікаўлены таксама ў павелічэнні паставак у Беларусь сельскагаспадарчай прадукцыі (рыс, арэхі, агародніна, садавіна, чай, кава, тытунёвыя вырабы), натуральнага каўчуку, вырабаў лёгкай прамысловасці, лекавай сыравіны, медыкаментаў. В'етнам праяўляе вялікую цікавасць да беларускіх ноўхаў, да абмену найноўшымі тэхналогіямі, да навуковых распрацовак, да супрацоўніцтва ў галіне адукацыі, падрыхтоўкі кадраў.

**Прэс-служба МЗС.**

**МЕРКАВАННЕ**

# ЖЫЛЛЁВАЕ БУДАЎНІЦТВА —
## ПРЫЯРЫТЭТНЫ НАПРАМАК ЭКАНОМІКІ

**Ёсць жартаўлівы выраз: "Бог стварыў зямлю і чалавека, усё астатняе зрабілі будаўнікі".**

**Па словах міністра архітэктуры і будаўніцтва Рэспублікі Беларусь Генадзя КУРАЧКІНА, жыллёвае будаўніцтва з'яўляецца сёння адным з прыярытэтных напрамкаў эканамічнага развіцця краіны.**

І калі ў 1995 годзе ў эксплуатацыю было ўведзена ўсяго 1 мільён 949 тысяч квадратных метраў жылля, то ў 1999-м гэты аб'ём склаў ужо 2 мільёны 952 тысячы квадратных метраў. А ў бягучым годзе ён павінен вырасці яшчэ на 18,6 працэнта і дасягнуць ужо 3,5 мільёна.

Вызначаны таксама аб'ём капітальных укладанняў у жыллёвае будаўніцтва — 368,2 мільярда рублёў, у тым ліку за кошт сродкаў арганізацый — 118,2 мільярда рублёў. Асноўную долю фінансавання нясуць пазабюджэтныя крыніцы, сярод якіх сродкі насельніцтва павінны скласці 39,2 працэнта, арганізацый усіх форм уласнасці — 29 працэнтаў.

Такім чынам, каля 70 працэнтаў жылля павінна быць уведзена ў эксплуатацыю без выкарыстання бюджэтных сродкаў у выглядзе прамых інвестыцый, ільготных крэдытаў, субсідый і субвенцый.

За першыя 6 месяцаў бягучага года аб'ём гадавога задання па будаўніцтву жылля выканаы на 47,5 працэнта. Сярод станоўчых паказчыкаў называнага перыяду Генадзь Курачкін назваў таксама падпісанне шэрагу нарматыўных дакументаў, у першую чаргу Указа Прэзідэнта па інвестыцыйна-жыллёваму фонду, і рост экспарту прадукцыі будаўнічых прадпрыемстваў. Напрыклад, "Керамін" павялічыў выпуск свайго тавару на 187, а Мінскі завод гіпсу — на 120 працэнтаў.

У той жа час з-за нізкага попыту на ўнутраным рынку знізіўся выпуск цэменту (на 10,7 працэнта), аконных блокаў (на 42 працэнты), зборнага жалезабетону (амаль на 30 працэнтаў) і іншых матэрыялаў.

Колькасць стратных прадпрыемстваў у параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года вырасла больш чым у 3 разы, павялічылася і колькасць неплацежаздольных прадпрыемстваў. Сярод прычын такога становішча называліся жорсткае рэгуляванне цэн на будаўнічую прадукцыю ва ўмовах значнай знешняй і ўнутранай інфляцыі, дэфіцыт уласных абаротных сродкаў, несвоечасовыя разлікі заказчыкаў і іншыя. Такім чынам, на другое паўгоддзе для будаўнікоў рэспублікі складаецца вельмі насычаная праграма: каб выканаць гадавое заданне, тэмп уводу жылля павінен вырасці на 16 працэнтаў, а аб'ём фінансавання — у 1,7 раза.

**Нэлі ПРЫВАЛАВА.**

**МІЖНАРОДНЫ ДЗЕНЬ МІРУ**

## ІМКНЕННЕ ДА ГРАМАДЗЯНСКАЙ ЗГОДЫ

Сёмы раз міратворчая грамадскасць Беларусі разам з усімі людзьмі добрай волі адзначыла Міжнародны дзень міру. Сёлета Генеральны сакратар ААН Кофі Анан ударам у звон Днём міру аб'явіў 5 верасня 2000 года, калі напярэдадні Генеральнай сесіі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый адкрыўся саміт тысячагоддзя ААН кіраўнікоў дзяржаў планеты. Упершыню Міжнародны дзень міру быў адзначаны ў штаб-кватэры ААН 21 верасня 1982 года. Прынята лічыць, што гэта дата — свята замацавання ідэалаў міру сярод усіх нацый і народаў.

Значнай падзеяй стаў гэты дзень для насельніцтва нашай краіны. Беларускі камітэт міру і Міністэрства адукацыі падрыхтавалі адпаведныя мерапрыемствы. Ва ўсіх школах і іншых навучальных установах прайшлі ўрокі міру, конкурсы юных паэтаў, мастакоў, музыкантаў. Натуральна, што галоўным іх зместам была тэма міру і дабрабыту ў нашым Беларускім доме, у нашай краіне.

Беларускі камітэт міру практыкуе самыя розныя формы дзейнасці: правядзенне традыцыйных Тыдняў міру, міжнародных семінараў і канферэнцый, Маршаў міру... У цэнтры ўвагі гэтых мерапрыемстваў знаходзяцца праблемы захавання міру і недапушчэння небяспекі вайны, спыненне выпрабаванняў ядзернай зброі, выхаванне моладзі ў духу гуманізму. Правядзенне такой работы было актуальным заўсёды, а тым больш сёння: на планеце яшчэ шмат "гарачых кропак", дзе гаспадараць смерць, насілле і голад. Вельмі вялікія чалавечыя ахвяры тэрарызму і катастроф. А штодзённыя зводкі з суседняй Расіі пра гібель невінаватых людзей выклікаюць у насельніцтва Беларусі не толькі спачуванне, але і трымаюць у пастаянным напружанні, нараджаюць трывогу, прымушаюць сур'ёзна задумацца пра захаванне стабільнасці і ў сваёй краіне. Важна таксама пастаянна памятаць, што толькі ва ўмовах міру і грамадзянскай згоды можна забяспечыць стабільнасць і прагрэс у развіцці грамадства.

**І. КІРЫЧЭНКА,**
**старшыня Прэзідыума Беларускага камітэта міру.**

**ФУТБОЛ**



## НАРЭШЦЕ ПЕРАМОГА!

Больш за два гады наша нацыянальна зборная па футболу не ведала перамог. Нядаўна яе ўзначаліў знакаміты Эдуард Малафееў, які заявіў: з гэтага часу Беларусь будзе выйграваць. Яму паверылі.

І вось каманда прайшла афіцыйнае баявое хрышчэнне — з лікам 2 : 1 выйграла ў зборнай Уэлса ў ходзе Еўрапейскага адборачнага турніру, у тых самых валійцаў, якія ў папярэднім адборачным турніры двойчы перайгралі беларусаў.

Эдуард Малафееў не стаў поўнасцю мяняць склад ранейшай зборнай. Ён толькі запрасіў некалькіх маладых амбіцыйных футбалістаў, што павысіла канкурэнцыю за месца ў асноўным саставе. Такім чынам, у зборную ўвайшлі: **варатар Генадзь Тумілёвіч, ігракі Аляксандр Хацкевіч, Эрык Яхімовіч, Аляксандр Лухвіч, Сяргей Штанюк, Сяргей Яскові, Сяргей Гурэнка, Валянцін Бялькевіч, Радзіслаў Арлоўскі, Максім Рамашчанка, Раман Васілюк.**

На прэс-канферэнцыі, якая адбылася пасля матча, трэнер валійцаў прызнаў, што беларусы гулялі значна лепш за яго выхаванцаў і вельмі хацелі перамагчы.

На мінскі стадыён "Дынама" ў той дзень прыйшло 25 тысяч балельшчыкаў.

НА ЗДЫМКУ: Эдуард МАЛАФЕЕЎ у час трэніроўкі.

**Фота Аляксея МАЦЮШКОВА, БелТА.**

**ЗДАРЭННІ**

### МЕТАЛ ВЫВЕЗЦІ НЕ ЎДАЛОСЯ

Супрацоўнікі Баранавіцкага гараддзела ўнутраных спраў затрымалі аўтамабіль "Вольва" з грузам металу. Пры нагле́дзе высветлілася, што вадзіцель спрабаваў вывезці за межы рэспублікі 13 тон алюмінію і 7 тон латуні без афармлення адпаведных дакументаў. Груз вартасцю 15 мільёнаў рублёў пойдзе ў даход дзяржавы. А ўсяго за тыдзень выяўлена 109 фактаў незаконнага вывазу тавараў за межы краіны. У даход дзяржавы канфіскавана таварна-матэрыяльных каштоўнасцей на суму больш за 110 мільёнаў рублёў.



ДАСЛЕДУЕМ ПРАБЛЕМУ: ХТО ДАПАМАГАЕ БЕЖАНЦАМ?

**З 1991 ГОДА З КАЗАХСТАНА НА БЕЛАРУСЬ ПРЫЕХАЛА ЖЫЦЬ 64 766 ЧАЛАВЕК, А З НАШАЙ КРАІНЫ Ў КАЗАХСТАН — 6 661.**

# ПЕРАД ТЫМ ЯК ПАКІДАЦЬ НАСЕДЖАНАЕ МЕСЦА, ТРЭБА ДОБРА ПАДУМАЦЬ

Пасля знікнення СССР на ягоных прасторах узмацніліся міграцыйныя працэсы. Адны людзі хацелі вярнуцца на сваю гістарычную радзіму, іншыя былі вымушаны пакінуць наседжаныя месцы жыхарства з-за цяжкіх умоў існавання — палітычных, эканамічных. Частка былых грамадзян СССР стала шукаць прыстанішча ў іншых краінах. Большасць тых, хто звярнуўся да беларускіх улад з просьбай прызнаць іх бежанцамі, — грамадзяне Расіі. З пачатку года паступіла 28 заяў. Але па кожнай з іх прынялі адмоўныя рашэнні па працэдуры рэгістрацыі хадайніцтваў, бо Беларусь лічыць Расію краінай бяспечнай для пражывання людзей. Таксама адмоўлена ў разглядзе падобных спраў 12 грамадзянам Азербайджана, 16 — Таджыкістана, 3 — Узбекістана, 1 — Эстоніі, 3 — Казахстана.

На канец чэрвеня статус бежанца прадастаўлены 14-ці грамадзянам Азербайджана, 35-ці — Грузіі, 17-ці — Таджыкістана.

Улічваючы ўсё гэта, трэба зрабіць некаторыя тлумачэнні.

Бежанцам можа быць прызнаны толькі той, хто праследуецца ў сваёй краіне з-за прыналежнасці да пэўнай расы, нацыянальнасці, сацыяльнай групы або па прычыне рэлігійных ці палітычных перакананняў.

Чалавек, які збіраецца звярнуцца па міжнародную дапамогу, павінен прасіць аб прызнанні яго бежанцам у першай жа бяспечнай для жыцця краіне, куды ён трапляе.

Прычыны эканамічнага характару не могуць быць падставай для прадастаўлення статуса. Возьмем да прыкладу сітуацыю ў Казахстане. Усе хадайніцтвы яго грамадзян адхілены, бо гэтая дзяржава не лічыцца краінай праследаванняў ці масавага выезду бежанцаў.

Прычыны, што вымушаюць людзей задумвацца пра пошук лепшай долі, добра ілюструюць лісты, дасланыя ў Камітэт па міграцыі пры Міністэрстве працы Беларусі грамадзянамі Казахстана (як правіла, рускамоўнымі). Летась было дзевяць, а за бягучы год сем падобных зваротаў. Людзі пішуць пра нізкую заработную плату, значная частка якой ідзе на аплату жылля, пра іншыя бытавыя складанасці. Супрацоўнікі камітэта не пакідаюць гэтыя пісьмы без увагі і тлумачаць палажэнні беларускага заканадаўства, адпаведна якому этнічныя беларусы могуць атрымаць у нашай краіне дазвол на пастаяннае жыхарства ці грамадзянства. Дарэчы, на 1 ліпеня 1999 года на Беларусі законна пражывае 91 600 замежнікаў. З 1998 года 5 436 чалавек, якія прыехалі з Казахстана, атрымалі беларускае падданства ў адпаведнасці з двухбаковым пагадненнем "Аб спрошчаным парадку прыняцця грамадзянства".

Тыя, хто нарадзіўся па-за Беларуссю, могуць прыехаць да нас жыць, калі маюць тут блізкіх сваякоў, мужа або жонку. Уз'яднанне сем'яў — міжнародная норма. Але, як патлумачылі ў Камітэце па міграцыі, мала якія краіны падобна нашай уключаюць у паняцце сям'я такое вялікае кола родных: дзеці, родныя браты і сёстры, бацькі, бабулі і дзядулі.

Калі ж чалавек не трапляе ні пад адну з пералічаных катэгорый, застаецца пераезд у зону, пацярпелую ад аварыі на ЧАЭС. Для жадаючых гэта зрабіць існуюць ільготы на атрыманне пасведчання на права жыхарства.

Сёння Беларусь — краіна, якая прымае мігрантаў з Казахстана. З 1991 года па першае паўгоддзе бягучага з Казахстана да нас прыехала 64 766 чалавек (беларусаў сярод іх толькі 5 419), а з Беларусі накіравалася ў Казахстан 6 661 (239 беларусаў). Як бачым, колькасць тых, хто прыехаў з Казахстана, перавышае лічбы тых, хто выехаў туды, амаль у 10 разоў. Можна сцвярджаць, што цяпер у Казахстане дзейнічаюць неспрыяльныя фактары, якія, па прагнозах спецыялістаў, захаваюцца на працягу не менш як пяці гадоў. Вышэйпералічанае стала адной з прычын абмеркавання міжурадавага пагаднення паміж Беларуссю і Казахстанам аб рэгуляванні працэсу перасяялення і ахове правоў перасяленцаў. Такое пагадненне павінна, па-першае, вызначыць асобу, якая можа лічыцца перасяленцам (пра бежанцаў тут гаворка не ідзе), па-другое, інфармаваць насельніцтва пра міграцыйныя працэсы. Калі такое пагадненне з'явіцца, чалавек, які пераязджае з адной краіны ў іншую, будзе атрымліваць перасяленчы квіток. Ён дасць права на мытныя льготы пры перавозе грошай, мэблі, аўдыё-, відэатэхнікі, аўтатранспарту. Дарэчы, такое ратыфікаванае пагадненне ўжо існуе паміж Беларуссю і Расіяй. Але яно, на жаль, пакуль не працуе, у тым ліку і з-за адсутнасці ў нас адпаведнага адміністрацыйнага органа, які б займаўся перасяленцамі. Але ж з Расіяй ёсць пагадненне аб бестаможнай прасторы.

Калі ж чалавек перасяляецца з іншай краіны, ён павінен дэкляраваць усе грошы, што перавозяцца праз мяжу (1 500 долараў на чалавека), заплаціць мытныя пошліны за апаратуру, бытавую тэхніку. Людзі, сутыкнуўшыся з падобным, лічаць: часам танней набыць новыя рэчы, чым траціцца на перавоз старых. Цяпер нельга спадзявацца на бясплатнае жыллё. Нялёгка знайсці добрую працу. Таму трэба дакладна ведаць сітуацыю ў Беларусі, правільна ацэньваць наш рынак працы, сабраць як мага больш дакладнай інфармацыі з надзейных крыніц. Абавязкова трэба звярнуцца ў пасольства Беларусі і ў міграцыйныя службы нашай краіны.

**Алена СПАСЮК.**

ЛІТЭКСПРЭС—2000

# Андрэй ФЕДАРЭНКА: «ПАЎСЮЛЬ ЦЭНЯЦЬ НАЙПЕРШ ПІСЬМЕННІКАЎ СВАІХ»

**Не так даўно завяршыўся "Літаратурны экспрэс "Еўропа — 2000", які прыняў на свой борт 100 літаратараў з 43 краін. Былі сярод іх і тры беларускія пісьменнікі: Вольга Іпатава, Леанід Дранько-Майсюк, Андрэй Федарэнка. Сустрэўшы аднаго з іх, хацеў напрасіцца на інтэрв'ю, але Андрэй Федарэнка замахаў рукамі: «маўляў, усе ўдзельнікі "Экспрэса" абавязаны напісаць што-небудзь для кнігі "Літаратурны даведнік: "Еўропа — 2000", так што і я тое-сёе раскажу, але крыху пазней...»**

**Застаецца чакаць. А пакуль прапаноўваем чытачам бліцінтэрв'ю з вядомым празаікам.**

**— Андрэй, вашы ўражанні: як прымалі літаратараў?**

— Прыёмы, ці, лепш сказаць, сустрэчы, усюды без выключэння былі самыя прыязныя: пачынаючы ад тэатралізаваных пастановак непасрэдна на вакзале і заканчваючы мэрыямі гарадоў тых краін, дзе давялося пабываць. У Літве і Эстоніі з намі сустракаліся Прэзідэнты, у Брюселі прыём быў ні многа ні мала ў Еўрасаюзе. Што да ўражанняў... Я асабіста ўпершыню выязджаў за мяжу ў заходнім накірунку, раней не быў не тое што ў Польшчы, а нават у Брэсце, таму мае ўражанні тычыліся найперш геаграфічна-пазнавальнага напрамку. Калі сказаць коратка і па магчымасці больш поўна, уражанні гэтыя можна сфармуляваць так: "Там усё такое ж, як у нас... Толькі лепш у дзесяць разоў"...

**— А якія, скажам, літаратурныя плыні ў Еўропе сёння найбольш распаўсюджаны?**

— Неадноўчы гаварылі пра гэта: і ў час выступленняў, і запланаваных дыскусій, у больш "інтымных" сітуацыях. Усе пагаджаліся, што былі, ёсць і будуць усяго дзве літаратуры: добрая і кепская. І кожны з нас (ці большасць з нас), незалежна ад нацыянальнасці, умее і пры жаданні зможа іх адрозніць.

**— Каго з нашых пісьменнікаў найбольш ведаюць у Еўропе?**

— Усюды цэняць найперш пісьменнікаў сваіх. І хочуць не столькі чужых перакладаў, колькі таго, каб перакладалі на іншыя мовы пісьменнікаў сваіх. Што да канкрэтна беларускай літаратуры — вядомасць у тых, чыё імя на слыху, хто ўмее "рабіць сябе". Чэмпіёнка тут Святлана Алексіевіч, ведаюць таксама Васіля Быкава і трохі Уладзіміра Някляева. У Латвіі перакладчык майго апавядання ("Памарак") Тапрыд Руліс прасіў перадаць самыя гарачыя прывітанні і пажаданні ўсяго найлепшага, а я запісаў прозвішчы ў нататнік і цяпер раблю гэта: Васілю Сёмуху, Анатолю Кудраўцу, Сяргею Законнікаву, Уладзіміру Арлову.

**— І апошняе пытанне (Андрэй спяшаецца): чаго чакае Еўропа ад Беларусі, Расіі?**

— На гэта я проста працытую вытрымкі з пісьма, якое атрымаў нядаўна з Берліна. Тут ужо спроба аналізу праекта "Літаратурны экспрэс "Еўропа — 2000" і некаторыя вынікі пасля яго завяршэння: "...Умовы існавання літаратуры як жанру зазналі вялікія змены. На нашых вачах адбываецца працэс аддзялення паэтычнага зместу ад звыклай формы — кнігі... СМІ прыкметна ўплываюць на развіццё літаратуры. І, наадварот, літаратура, калі яна хоча выжыць як від мастацтва, павінна змірыцца з тым, што яна толькі частка радыкальна-зменлівага свету камунікацыі..." і яшчэ ў такім плане, што нам, пісьменнікам, ледзь не "в прошедшем веке запоздалом" (маю на ўвазе адсутнасць у большасці з нас камп'ютэраў і няўменне і нежаданне аваладаць імі), можа падацца дзікасцю. Аднак з гэтым мы вымушаны будзем змірыцца.

Гутарыў **Алесь МЯСНІКОЎ.**



*Андрэй ФЕДАРЭНКА на краі Еўропы — у Партугаліі.*

З КІРГІЗІІ Ў ФРАНЦЫЮ ПРАЗ БЕЛАРУСЬ




**● Раман КАБЯК, БелТА.**

Больш за 7 тысяч кіламетраў праехаў конны экіпаж, гаспадары якога лічаць сябе нашчадкамі Тамерлана. Ён накіроўваецца з Кіргізіі ў Парыж. На чале марша "Дружбы і Міру" — журналіст з Джалалабада, кіргізскі праваабаронца Зіяхідзін Мамажанаў. Разам з ім вандруюць сын Зілапідзін і брат Аскар.

Адправіўшыся ў дарогу 1 мая 2000 года, вандроўнікі прымеркавалі экспедыцыю да юбілею буйнейшага кіргізскага горада Ош, а таксама 665-годдзя вядомага правіцеля Самаркандскай дзяржавы Тамерлана, які пазбавіў Расію і Еўропу ад прыгнёту ханаў Тахтамыша і Баязета. У Францыі вандроўнікі наведаюць музей Версаля, дзе захоўваецца залаты бюст Тамерлана, адліты ў тыя далёкія гады ўдзячнымі французамі. Ад прэзідэнта Кіргізіі Аскара Акаева яны вязуць у падарунак французскаму прэзідэнту шаблю з дароўным надпісам.

На самаробнай павозцы развяваюцца флагі Кіргізіі, Узбекістана, Расіі, Беларусі, дабавяцца потым — Польшчы, Германіі і Францыі. У канцы вандроўкі павозка будзе перададзена французскаму музею.

АСОБА Ў БЯЗМЕЖЖЫ ЧАСУ



Сёлета споўнілася 160 гадоў з дня нараджэння беларускага паэта, празаіка, публіцыста Францішка Багушэвіча. У гісторыю Беларусі ён увайшоў як актыўны ўдзельнік нацыянальна-вызваленчага паўстання 1863 года і адзін са стваральнікаў беларускай літаратурнай мовы. Выдаў два паэтычныя зборнікі "Дудка беларуская Мацея Бурачка" (1891), "Смык беларускі Сымона Рэўкі з-пад Барысава" (1894). Зборнік "Беларускія апавяданні Бурачка", падрыхтаваны да друку ў 1899 годзе і забаронены царскай цэнзураю, згублены. Памёр Ф. Багушэвіч у 1900 годзе. Яго імя прысвоена Ашмянскаму краязнаўчаму музею, калгасу ў Жупранах, там устаноўлены помнік паэту і створаны музей яго імя. У доме ў Кушлянах (Смаргонскі раён), дзе жыў Ф. Багушэвіч, знаходзіцца бібліятэка, якая таксама носіць яго імя.

*НА ЗДЫМКАХ: Францішак БАГУШЭВІЧ. Фотарэпрадукцыя з партрэта; помнік Ф. Багушэвічу ў пасёлку Жупраны Ашмянскага раёна, дзе пахаваны паэт; памятны камень на тэрыторыі сядзібы ў вёсцы Кушляны Смаргонскага раёна.*





ВелТА.

# ЭПІГРАФ НА ВОКЛАДЦЫ

У 1993—1995 гадах Інстытут мовазнаўства выдаў чацвёртым выданнем трохтомны руска-беларускі перакладны слоўнік. Кожны томік прыгожа, па-мастацку і з любасцю аздоблены арыгінальнымі каляровымі літаграфіямі мастака Уладзіміра Басалыгі з выкарыстаннем літар беларускага алфавіта і адпаведных малюнкаў нашай прыроды, нашага побыту. Згаданы слоўнік мае і яшчэ адну адметнасць: на яго вокладку вынесены запаветна-трывожныя Багушэвічавы словы: *"Шмат было такіх народаў, што страцілі найперш мову сваю, так як той чалавек перад скананнем, катораму мову займае, а потым зусім змёрлі. Не пакідайце ж мовы беларускай, каб не ўмёрлі!"*

Вынас на вокладку слоўніка Багушэвічавых слоў трэба лічыць творчай знаходкай. Гэта, здаецца, першы выпадак, калі Багушэвічавы словы гэтак удала скарыстаны пры выданні кнігі. Растыражаваныя — наклад кожнага тома сто тысяч асобнікаў, — яны штодзень і штохвілінна нагадваюць кожнаму, хто дакранецца да слоўніка, бярэ яго ў рукі, як трэба шанаваць роднае слова, дбаць пра яго і чаму: "каб не ўмёрлі".

Ідэя вынесці на вокладку Багушэвічавы словы прыйшла Барысу Сачанку. Выхад і падрыхтоўка слоўніка выпалі якраз на пару нацыянальна-адраджэнскага ўздыму, і самымі прыдатнымі для гэтага сталіся Багушэвічавы словы. Іх натуральна ўспрымаем на вокладцы слоўніка яшчэ і таму, што Францішак Багушэвіч калісь і сам складаў слоўнік беларускай мовы. То ягоныя словы на вокладцы слоўніка яшчэ нам памятка і пра гэты Багушэвічаў клопат.

"Руска-беларускі слоўнік" шырока разышоўся не толькі па Беларусі, але і па ўсім свеце, па ўсіх краінах. І ў кожную з іх ён прынёс Багушэвічава імя, ягоныя думкі і трывогі пра родную мову.

У дачыненні да самога слоўніка Багушэвічавы словы — гэта нібы ліхтарык, які кідае чытачу праменьчык на шматпакутны шлях нашай мовы, і адначасова гэтыя словы — запросіна, прапанова разважыць пра наш народ, наш край, паспагадаць яму, наладзіць адпаведны падыход да спазнання нашай мовы.

Здавалася б, эпіграф на вокладцы ўсяго толькі нейкая драбнічка, аздоба. Але не гаварыце. У нашым грамадскім жыцці гэта якраз той выпадак, калі кажуць: "Малы залатнік, ды дарагі". Гэтак навекі вечныя зліліся Багушэвічавы словы з слоўнікам, неразлучна жывуць з ім з падказкі Барыса Сачанкі.

**Уладзімір СОДАЛЬ.**

КРОПКА НА КАРЦЕ



*Будынак былой земскай управы — помнік архітэктуры і візітная картка горада Рагачова.*

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**

**Калектыў Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны глыбока смуткуе з выпадку смерці Ежы ГЕДРОЙЦА — палітыка і публіцыста, заснавальніка і рэдактара парыжскага часопіса "Культура" — выдатнай з'явы ў польска-беларускім інтэлектуальным дыялогу. Адкрытасць, пошук праўды, свабодалюбства і годнасць, неабходнасць раўнапраўнага супрацоўніцтва незалежных краін Беларусі, Польшчы, Украіны, Літвы — прынцып жыцця і дзейнасці Ежы Гедройца — мусіць стаць прынцыпам кожнай Асобы, якая рупіцца на карысць беларускай перспектывы.**

ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ

# «Я ХАЦЕЎ БЫ СПАТКАЦЦА З ВАМІ...»

● **Антаніна ХАТЭНКА.**

У цёмнай плыні нашага беларускага быцця, у непраглядных глыбінях нашае параненае свядомасці словы гэтыя патанаюць, як "Свяціся імя тваё" ў памяці зацятага бязверніка: не варушачы роўнядзі-застыласці паверхні. Варта было б варажбітна, патаемна ўслухацца ў цішу, навіслую над бяздоннай, апрыметнай, перакуленай уверх сподам, нашай рэчаіснасцю сёння, каб адчуць біццёдрыжанне рэха з пачатку стагоддзя: "Я хацеў бы спаткацца з Вамі на вуліцы У ціхую сінюю ноч". Стрывожана й балесна кволы, схварэлы паэт, якому, пэўна, ужо адкрылася існасць жыцця ды логіка смерці, дасылае да нас найгаротнае пачуванне чалавека ў бязлюддзі: непачутасць, неадоленасць сказаць голасна, упэўнена, адкрыта. А тое азначае — спытацца з распасцертае ў бязмежнасць, распятае на крыжы маўчання начы: "Бачыце гэтыя буйныя зоркі, Ясныя зоркі Геркулеса?"

Паэту, які й сам ёсць зляцелы да цёплага долу расхрыстаны птах, усё ў свеце бачнае лётам, памкненнем, узвершаннем — ад учора да заўтра, ад пустэльні ўсяленства да сябе, ад зямлёю, гаспадаркаю — здольных адно рэпрадукаваць, не прыўносячы ва ўзнаўленне азоранасці, — а іншых, нібыта някемцаў, мажлівасцю далягляднa, ва ўсе бакі свету, ахапіць жарптахавымі крыламі існасць красы і вышыні. Красы і вышыні **Быць**, заставацца працягам і звяршэннем. І здагадкаю: хто мы ёсць ды навошта. Максім спаймаў гэтую здагадку, як сонечны зайчык: "Будзь жа, век малады, Поўны светлымі днямі! Пралятайце, гады, Залатымі агнямі!"

"І прад высокаю красою, Увесь зачараваны ёю", ён расставаўся з Бацькаўшчынай, якая адно сінелася недзе ўдалечы свіцязянскім небам, аблашчаным чырвонаю ладдзёю касцёла Святое Ганны, не журботна. Бо спазнаў вялікую вальготу быць не пасынкам ёй, вырасшы і на чужых берагах, смакаваць мову ейную, упіваючыся разнатраўем чужых, прыжыўленых сэрцам моваў, і верыць: "дачакаецца залацістага яснага дня".

Ці дачакалася Айчына таго мройнага дня, нам з вамі відней. А тое, што не засвоілі ўроку Максімавага, дый Кастусёвага таксама, відочна: і ўдома не чуем водару мовы, і не хінемся ў ласкавасці да чуйнага долу, які трымае, ускалошвае ды кропкі-святліны ў бясконцасць. Ад жыцця — у няспынную, нястомную, нескароную яе Вялікасць вечнасць. Перад краем тае вечнасці, якая змыкае пачатак і скон у пераможную бытнасць, паэт ведае: "Спакой глыбокі Злятае к нам З нябёс далёкіх, і ззяе там Блеск золку ясны. О, момант красны!"...

Непарыўная, непадзельная злітнасць найтонкага нашага творцы з бытнасцю, з усім тварэннем Божым ва ўсіх ягоных незлічоных і не пазнаных нашым розумам праявах ёсць акрыленая радасць прышэсця, пазнання і развітання-ростані. І ўсё мудра, гарманічна суаднесена, усё поўнае таемнага прыгоства, найвялікшага невыказнага сэнсу: "Жыві і цэльнасці шукай — і ў напружэнні паўнаты Свайго шырокага жыцця Без болю, ціха зойдзеш ты ў краіну забыцця", "А матылёк ужо не б'ецца: Табе ахвяра ён, краса!"

Суровая і надзвычай жыццялюбная праўда адзінасці ды ўсё ж непераможнасці быцця, якую ўгледзеў відушчы Максім Багдановіч, ушчэнт разбівае наш першы нацыянальны міф — пра бяздольнага, вымучанага, адарванага ад крэўнае глебы ды мовы паэта-сірату, пазбаўленага матулінай абярожнасці і адданасці каханае дзяўчыны, а таму вартага спачувальнага замілавання. Выкладзена ж доляй узапраўду наадварот: веданне, калі хочаце, валоданне ісцінай смерці, якая раскрываецца толькі гатовым прыняць яе і ўхваліць, робіць Максіма недасяжным і ўжо таму героем. Гэта праўда, нам больш уласціва аплакваць герояў, чым ганарова мацавацца таею сілаю сягнёнасці ды мужнасці, якой дадзена праз іх праменіцца да нас — да суродзічаў. Мы і зараз яшчэ жальбуем па Каліноўскім, не свядомячы ўсяе філасофіі ягонага ўсшэсця на вісельню са словамі запаветнымі: "Бывай здаровы, мужыцкі народзе. Жыві ў шчасці, жыві ў свабодзе!" Мы нікнем звялымі кветкамі перад смерцю Максіма, недаравальна-юнаю і да нясцерпу зрамантызаванаю. Здараецца ж узыход у бясчассе нашмат празаічней і бязлітасней: і Кастусь, і Максім, вядома ж, пакутавалі, зацугаваныя болем непапраўнасці. Але, апынуўшыся на хісткім крышталёвым мастку, яны абодва, як, зрэшты, і кожны з далёкіх нашых прапродкаў, навучаных паміраць, вястуюць нам наказ, выпрадзены не са змроку ды згрызоты свайго неадступна-блізкага знікнення, але з прачутага ўжо імі шчасця жыць, любіць, дзеіць, расці. Прачутага і... адабранага на калінавым мосце пераходу — з імгнення-прасвятлення на зямлі ў вечнасць-замглёнасць па-за (ці па-над) ёю. Непарушна гэтак жа, як паэт канстатуе: "Я не самотны. Я кнігу маю...", прадзеды нашыя ўрачыста-прароча перадавалі пасаг-спадчыну нашчадкам са смяротнае ўложні, надзяляючы адных выкрасоўвае жытку нашую да ўладарна-вызначальнага налівання. Не хочам быць і памятаць сябе шчаслівымі, як замольваў з карнага вяроўчынага вузла Каліноўскі: здаравец шчаслівец ды вальнец. Мы ж усё звыкла скардзімся. І дзеля гэтага сатварылі сабе адзін міф: усе слыннікі нашыя адораныя гэткаю магутаю жыць ды змагацца ў вяках, што і цяпер стаяць ваярамі на варце нашае кругавое абароны. Іхняя мужнасць ды адвага, маўляў, на векі вечныя нам заслонаю выпраўленыя. Азонавы духоўны слой, вядома, правідцы, вої святла нам разасланы над галовамі і лёсамі, але, здаецца мне, мы яго да дзіраў праплакалі, праелі сваёй нудотай, прабілі чорнымі ўспальваннямі змагання адно з адным. Падобна, як дагматычныя вернікі абшчаперылі містычнага Хрыста, узнесенага ў Божае гаспадарства, ды прымаўляюць: "Ён за нас ахвяраваўся, за нас адплаціў"...

Пытанне ж Максіма Багдановіча патрапляе і цяпер у маўчанне нашае душы: "Хто мы такія? Толькі падарожныя, — папутнікі сярод нябёс. Нашто ж на зямлі сваркі і звадкі, бол і горыч, Калі ўсе мы разам ляцім Да зор?"

У белай магіі маёвых ночаў, калі Сусвет маракуе і марыць, падалося мне: ад калыскі менскай да крымскае сіняе бухты і да сённяшняга нашага ўспаміну... ляціць Максім Багдановіч — зорка нашага світання ды святлення, весцячы нам пра жыццё ўзлётнае:

*Набягае яно*
*Вечарамі, начамі,*
*Адчыняе вакно*
*І шамрэе кустамі.*
*І гавора адну*
*Старадаўнюю казку —*
*Аб любоў і вясну*
*І жаночую ласку.*

Вось яно, святое трыадзінства лёсу-лёту, вынайдзенае паэтам у скарбонцы старое Беларусі і занатаванае дзеля нас. Каб усё-ткі спасціглі-навучыліся: жыццё — шчасце, учыненае з любові і расчыненае да ўзлёту, ускрыленага Пагоняй-адраджэннем. Каб сыход аднойчы не падаўся прорвай-драпежнасцю, а ўсяго толькі шчасцем перамяшчэння ў прасторы і часе гармоніі, дзе прыстанкам жывое радасці была краіна Крывія, незваяваная, але ашчаслівуленая намі, дзецьмі яе вечнасці. "Пралятайце вы, дні, залатымі агнямі. Скончу век малады, — Аблятайце цвятамі", — святочна прамаўляе Максім Багдановіч у несмяротнасць з одумна-сумнага семнаццатага, сцвярджаючы валадаранне ціхай любові ў зачараваным царстве — над шалам рэвалюцыяў і крыўдаў,.. дзе, бясспрэчна, пачуюць ягонае замольванне: "Я хацеў бы спаткацца з Вамі". І спаткаюцца з сабою, Светлымі, у лёце да зор...





**СПАДЧЫНА**

# І ПРЫСНІЎСЯ ГАНЧАРНЫ МНЕ КРУГ...



Традыцыі ганчарнага рамяства на Любаншчыне вельмі багатыя. Ім, па ацэнках мясцовых спецыялістаў, больш за 200 гадоў. Лічыцца, што наймацнейшага росквіту ганчарства дасягнула ў мінулым стагоддзі, калі прыгонныя сяляне абавязваліся плаціць пану грашовы аброк.

Прызнаным цэнтрам названага рамяства ў нашым раёне з'яўляецца вёска Дарасіно. Тут здаўна рабілі разнастайны паліваны кухонны, сталовы і тарны посуд светлага або светла-чорнага колеру глін і, безумоўна, гліняныя цацкі. Упрыгожвалі гатовыя рэчы прамымі ці хвалістымі выціснутымі або маляванымі лініямі. Паліва ж скарыстоўвалася празрыстая ці зялёная. Трапляўся таксама чорна-задымлены посуд.

Некалі адна частка Дарасіно ўваходзіла ў маёнтак Паніч, а другая — у маёнтак Смольгаўка, якія належалі самаму буйному на Любаншчыне землеўладальніку князю Льву Вітгенштэйну (а яму дасталіся ў пасаг за Стэфаніяй Радзівіл). У Інвентары 1839 года пазначана, што дарасінцы "суть все горшечники", транжыраць шмат дроў на абпальванне сваіх вырабаў. Таму павінны плаціць пану 54 рублі серабром "гарнавых" з усёй вёскі.

Дарэчы, пры Вітгенштэйну ганчарства ў Дарасіно перажыло, напэўна, самыя драматычныя старонкі гісторыі. Пан не дазваляў займацца рамяством, руйнаваў печы, матывуючы свае дзеянні тым, што сяляне зусім закінулі асноўную работу — "хлебопашество". Між тым, тутэйшыя жыхары працягвалі тайна здабываць гліну і ляпіць з яе посуд. Іх лавілі, штрафавалі, валаклі ў суд.

У рэшце рэшт, у 1863 годзе Вітгенштэйн прапанаваў дарасінцам своеасаблівы дагавор, па якому ім належала ўсю ганчарную прадукцыю звозіць на панскі двор. Далейшай яе рэалізацыяй павінны былі заняцца ўпраўляючыя памешчыка. І рамеснікі, пачухаўшы патыліцы, пагадзіліся.

Аднак у 1866 годзе зноў разгарнулася судовая справа. Ганчары з Дарасіно Дзям'ян Багдашыц, Андрэй і Канстанцін Сяховічы папаліся на падпольным гандлі ўласнымі вырабамі. Яны прадалі слуцкім яўрэям па аднаму горну (260 штук) гаршкоў. Атрымалі самавіты задатак. І ехалі, каб туды ж прыстроіць іншы посуд. Іх пераняў служачы князя палкоўнік Трацьякоў, канфіскаваў вырабы, а непаслушэнцаў адправіў у каталажку.

Ды рамяство ўсё ж такі прадаўжала жыць і набіраць моц. У звестках аб развіцці саматужных промыслаў Мінскай губерні ў 1889 годзе ўпамінаецца і Дарасіно. У прыватнасці, пішацца, што 12 ганчароў гэтай вёскі вырабілі і збылі гаршкоў на 76 рублёў.

Бадай, з роду тых самых непакорных Багдашыцаў вядзе ўласную гісторыю і сучасны дарасінскі майстар М. Прышчэпа, які пераняў сакрэты ганчарнага рамяства ў дзеда — Міхайлы Багдашыца. Вось як аб гэтым расказвае сам Міхаіл Ціханавіч:



*Міхаіл ПРЫШЧЭПА дэманструе ўласныя вырабы.*

— Назіраў, як працаваў дзед, як іншыя майстры выраблялі посуд. Запамінаў, як пэндзлікам падмазваюць, як ножыкам падчышчаюць, як зразаюць дроцікам гатовыя рэчы. Не саромеўся распытваць. Паступова і сам загарэўся. Аднойчы паехаў і забраў у дзеда круг, гліну. Устанавіў дома. Ну і сеў ляпіць пры лучыне.

Літаральна ў першы вечар самастойнай працы хлапчук, якому яшчэ не стукнула і дванаццаці, зрабіў 10 кубачкаў. І з кожным днём колькасць глінянага посуду і цацак павялічвалася. Атрымлівалася някепска, што яшчэ больш падахвочвала Міхасіка да названай справы.

— Потым павёз на базар у Слуцк і зарабіў за гэтую драбязу цэлую кішэню грошай, — заканчвае расказ М. Прышчэпа.

Кім толькі ні даводзілася быць у жыцці Міхаілу Ціханавічу! І супрацоўнікам СМЕРШа, і конюхам, і пастухом. Але сёння ён асноўны майстар ганчарнага цэха калгаса "Дружба" ў Дарасіно. Працуе ў традыцыйнай манеры, увасабляючы ў вырабах старажытныя формы і прапорцыі. Ёсць у яго і вучні — мясцовы хлопец Васіль Юхневіч і сын Аляксей.

Крыху запозненa, аднак прыйшла да М. Прышчэпы і слава. На першым абласным фестывалі ганчароў "Гліняны звон", які адбыўся ў Любані, дарасінскаму майстру прадаставілі ганаровае права зляпіць першы гаршчок свята. На тым жа фестывалі Міхаіл Ціханавіч атрымаў за свае вырабы першую прэмію.

Другі дарасінскі майстар — Міхаіл Філіпеня. Да Вялікай Айчыннай ён працаваў у ганчарнай арцелі пасёлка Урэчча. Тры месяцы — вучнем, а пасля, з 1939 года, сам стаў рабіць посуд.

З першага дня падпаў ён пад чароўнае абаянне нараджэння глінянага посуду. Ды і як не падпасці?! Вось на ганчарны круг паклалі вільготны камяк гліны. Круг пачынае раскручвацца, і патаемныя, загадкавыя цэнтрабежныя сілы і артыстычныя, ледзь улоўныя рухі рук рамесніка ператвараюць камяк у збанок ці гляк пяшчотна-грацыёзнай формы. Мільгае ў паветры, бы маланка, тоненькі дроцік, і гатовая рэч, насычаная мяккай гульнёй сонечных блікаў на яшчэ матавай шурпатай паверхні, перабіраецца на паліцу — у рад такіх жа прыгожых вырабаў. І гэтыя дзіцячыя ўражанні запомніліся М. Філіпеню на ўсё жыццё.

Дарэчы, гэтая арцель, а дакладней — таварыства вогнеўстойлівага будаўніцтва "Саюз", была заснавана ў красавіку 1928 года. Зона дзейнасці яе распаўсюджвалася на Языль, Паўстынь, Заградзе, Аточку, Сарогі, Дарасіно. Прадукцыя ж славілася далёка за межамі той зоны. Яна трапляла аж у Мазыр, у Магілёў, не кажучы ўжо пра Слуцк і Старыя Дарогі.

Працавала тады ў арцелі 12 чалавек. І ганчарствавалі тут выдатныя майстры — Фінкель, Кацнельсон, Навіцкі, Гаўрыла Зяньκоўскі, Уладзімір Філіпеня (старэйшы брат Міхаіла Максімавіча). Посуд выраблялі традыцыйны: гладышыкі, збанкі, слоікі, кубачкі, спарышы.

У час Вялікай Айчыннай вайны будынак арцелі згарэў. Аднак некаторыя члены таварыства працягвалі вырабляць гліняны посуд. Па словах М. Філіпені, людзям была магчымасць пракарміць сябе і сям'ю, неяк звесці канцы з канцамі.

Вось што ўспамінаюць пра ваенную і пасляваенную пару Міхаіл Максімавіч і Міхаіл Ціханавіч:

— Плацілі нам за прадукцыю наступным чынам: колькі ў збанок улезе зерня — яно наша. Праўда, падобнае лічылася амаль дарэмным. У лепшыя гады нам адсыпалі за кожны выраб па паўвядра збажыны. Мянялі таксама на сала, на гарэлку.

Пасля вайны Урэцкі цэх аднавілі. У 1946 годзе арцель выпусціла 13 123 літры ганчарнага посуду, у 1948-м — 109,6 тысячы літраў, у 1949-м — 100,4 тысячы. А лепшым ганчаром у тым жа годзе лічыўся Цімафей Дубліцэвіч. Праіснавала арцель аж да 1970 года.

З арцелі М. Філіпеня пайшоў у армію. Служыў пад Сталінградам. І пад канец сваёй ваеннай "кар'еры" таксама калі-нікалі сядзеў за ганчарным кругам. А пачалося вось з чаго. Расказвае майстар:



*Любанскі ганчар Міхаіл НАСАНОВІЧ у сваёй майстэрні.*

— Справа была зімой. Мо ў 1947 годзе. Паднялі нашу роту па вучэбнай трывозе і кінулі на марш. Восемдзесят кіламетраў пратэпалі. І апынуліся ў нейкай вёсцы. Размясціліся на прывал. Побач — хата. Заходжу і бачу: пажылы дзяцюк чаруе над ганчарным кругам.

Мяне аж страсянула, аж у пальцах закалола. Тры ж гады да гэтага пра круг і слыхам не чуў. І вось на табе — шчасце прывaліла! Прытуліўся я да дзвярнога касяка і за работай чалавека з асалодай сачу. А потым пытаюся:

— Як у вас такія цудоўныя рэчы атрымліваюцца?

— Як-як, — усміхаецца майстар. — Ты ж бачыш, як.

А мне ўжо так за гэтым кругам пасядзець захацелася, што аж дыханне пераняло. Папрасіць дзецюка, як кажуць, у лоб? Неяк няёмка. А давай, думаю, я яго разыграю, "падкалю".

— А з чаго вы лепіце? — прыкідваюся прастачком.

— З гліны, — адказвае.

— А колькі, — пытаюся, — трэба вучыцца, каб такім майстрам, як вы, стаць?

— Гады тры-чатыры папацець давядзецца.

А мяне ўжо нейкі блазлівы настрой апанаваў, ужо быццам чорт за язык цягне.

— А я вось, — гавару, — сеў бы ды зрабіў не горш.

Гаспадар прыплюшчыў вочы і на мяне недаверліва ўтаропіўся. Адчуваю: ацэньвае. Потым нешта для сябе рашыў і галавой ківае:

— Калі ласка! Паспрабуй.

І залажыліся мы з ім. Я з кішэні дваццацьпятку выняў і ў сябра яшчэ чацвяртак пазычыў. Дзяцюк таксама паўсотні з другога пакоя вынес. Аддалі грошы нашаму камандзіру ўзвода — старшаму лейтэнанту. І сеў я за круг. Не хачу адразу паказваць, што я спецыяліст, таму дуруся. Распытваю: а вада для якой патрэбы, а ножык нашто?

Узяўся нагамі круг круціць. Нязручна! У нашай арцелі ўсе кругі механізаваныя ж былі. Скінуў я кірзачы, паспрабаваў босымі нагамі. Выдатна! Тады за гліну — цап. Націсну, а яна між пальцамі разлазіцца. І яшчэ раз, і яшчэ. "Ну, — думаю, — хопіць балавацца". А сам ужо хваляванне суняў, фактуру матэрыялу адчуў, прыкінуў, што і як ляпіць буду. І зрабіў збанок з носікам, каб зручней ваду ці малако наліваць.

— Ручку, — кажу гаспадару, — самі прыладзьце. Трэба ж, каб яна дзень які прысыхала.

Здзівіўся майстар і камандуе:

— А ну, зляпі глячык!

У іх глякі робяць, што дзіця праз горлышка руку ў сярэдзіну засуне. У нас — горлышкі вузейшыя. Я падобны і выканаў. Паглядзеў дзяцюк і, мабыць, здагадаўся, што яго разыгралі. Але пачухаў патыліцу і чэсна прызнаўся:

— Каб мне такую рэч зрабіць — яшчэ тры гады вучыцца неабходна.

І грошы не забраў.

Вярнуліся мы ў часць. Пастроіў нас камандзір батальёна, выклікаў мяне, паставіў перад таварышамі і смяецца: "Цяпер без посуду не застанемся!"

Адслужыўшы, М. Філіпеня зноў уладкаваўся ў арцель. А неўзабаве, падзарабляючы ў Дарасіно, пазнаёміўся з прыгожай дзяўчынай, закахаўся ў яе, ажаніўся і асеў у вёсцы, як аказалася, на ўсё жыццё. У калгас, хоць і меў пасведчанне аб заканчэнні курсаў трактарыстаў, не пайшоў. Рамяство давала някепскі прыбытак.

У Дарасіно, між тым, ганчарства ў пасляваенны час перажыло не менш драматычныя старонкі гісторыі. Вось, напрыклад, пратакол агульнага сходу членаў мясцовага калгаса "Рэвалюцыя" ад 14 кастрычніка 1949 года. Здавалася б, сухія радкі, надрапаныя няўпэўненай рукою сакратара. Аднак карціну ўявіць сабе можна.

Цесная зала. На задніку сцэны — партрэт вусатага правадыра. Пасярэдзіне — накрыты чырвонай тканінай стол, за якім стаіць старшыня праўлення гаспадаркі М. Наўмовіч і гнеўна кідае ў прапахлы гноем і тытунём натоўп хлёсткія, як удары пугі, фразы:

— Стан працоўнай дысцыпліны ў калгасе дрэнны. Лубін гніе, зябліва не ўзнімаецца. А вы лынды б'яце, асабістымі справамі заняліся. Бач, у гаршкалёпства кінуліся! — І ад кожнага слова павявае яўнай пагрозай. — Брыгадзіры даюць коней для вывазу гаршкоў на базары без ведама праўлення. Напрыклад, брыгадзір Рыгор Бандарэц.

Рыгор Бандарэц пужліва хаваецца за спіны суседзяў. І яго можна зразумець: не раз у падобных пратаколах значацца пастановы перадаць у рукі следчых органаў і за меншыя грахі. А там, глядзіш, і ў лагер загрыміш!

На даным жа сходзе вырашылі прасіць раённы Савет дэпутатаў знішчыць усе горны, якія быццам бы пагражаюць вёсцы пажарамі. За "чырвоным" сталом сядзіць старшыня Дарасінскага сельсавета М. Пятніцкі, і можна не сумнявацца, што падобная просьба да раённых улад даляціць аператыўна.

І знішчалі! А ганчарам то прысядзібныя ўчасткі абразалі, то наогул "вычышчалі" іх з калгаса. Не памагала! І вось ужо на справаздачна-выбарным сходзе "Рэвалюцыі" ад 14 сакавіка 1950 года той жа М. Наўмовіч зноў абвяшчае анафему ганчарам.

Чым жа не дагадзіла ганчарства і пану, і Савецкай уладзе? Напрошваецца цікавая паралель. І пры Савецкай уладзе сяляне, па сутнасці, былі прыгоннымі — як пры Вітгенштэйну. Рамяство давала хоць нейкую эканамічную незалежнасць, свабоду. А сялян, зразумела, стараліся прывязаць да зямлі — да чужой зямлі, перавесці ў ранг цяглавай жывёлы.

Праўда, на тым жа справаздачна-выбарным сходзе М. Наўмовіча забалаціравалі. Новым старшынёй праўлення стаў І. Гарбачоў.

Калі меркаваць па дакументах, то Ілья Нічыпаравіч прапанаваў дарасінскім ганчарам дагавор якраз у духу Вітгенштэйна. 20 ліпеня 1950 года на пасяджэнні праўлення гаспадаркі заслухалі дакладную падліκоўца Максімовіча аб налічэнні працадзён за розныя работы. У прыватнасці, за выраб гаршкоў (тысяча літраў) прапаноўвалася налічваць пяць працадзён, за абмазванне глінянага посуду палівай (300 штук) — 0,5, за абпальванне аднаго горна прадукцыі — 1, за распілоўку двух кубаметраў дроў — 0,5 і за адвозку прадукцыі на базар (двое сутак) — 3 працадні. І гэтую прапанову прынялі.

Аднак М. Філіпеня (як і М. Прышчэпа, як і іншыя ганчары — Іван Наўмовіч, Канстанцін Наўмовіч, Міхась Хілько, Мацвей Хілько, Міхась Клязовіч, браты Сцяпан, Міхась, Гаўрыла і Іван Зяньκоўскія) лёс далей не выпрабоўваў. Пасля знішчэння горнаў у вёсцы ён уладкаваўся-такі трактарыстам і прарабіў 28 гадоў. І толькі потым, у 80-х, калі яму, як пенсіянеру, ужо не было чаго губляць, Міхаіл Максімавіч перабраўся ў ганчарны цэх калгаса "Дружба". А ў 1993-м перайшоў у разрад "кансультантаў", бо страціў палец на левай руцэ.



*Працуе дарасінскі майстар Міхаіл ФІЛІПЕНЯ.*

Але ёсць надзея, што ганчарнае рамяство на Любаншчыне не звядзецца, не скончыцца разам з "апошнімі з магікан". Пры раённым цэнтры культуры існуе ганчарная майстэрня, якую ўзначальвае М. Насановіч — выпускнік Бабруйскага мастацкага вучылішча. Сваімі ўмелымі, працавітымі рукамі ён вырабляе цудоўныя, непаўторныя па прыгажосці рэчы.

Міхаіл Аркадзевіч — новая генерацыя ганчароў, якая разумее, што прыкладное значэнне рамяства ў апошні час значна знізілася. Таму вырабы хлопца носяць хутчэй дэкаратыўны, сувенірны характар. Сярод вытанчаных збанкоў і глякоў трапляюцца мудрагелістыя вазы, упрыгожаныя рознакаляровай палівай, падсвечнікі самай дзівоснай формы.

Аднак самае галоўнае: М. Насановіч абучае ганчарнаму майстэрству любанскіх школьнікаў.

**Сяргей КВІТКЕВІЧ.**
**Фота Віктара НАГОРНАГА і Яўгена КАЗЮЛІ.**

ПАДАРОЖЖА ПА МІНСКУ



# ЗАВІТАЙЦЕ НА «ВЕРНІСАЖ»

"Вернісаж" — менавіта так называецца выстава-продаж мастацкіх твораў, што вось ужо шэсць год працуе ва ўтульным скверы на плошчы Свабоды ў Мінску.

Мінчане памятаюць, што першыя спробы прапанаваць жадаючым свае творы рабілі некаторыя мастакі: выстаўляючы свае працы каля дамоў уздоўж праспекта імя Ф. Скарыны. Улады такі гандаль не ўхвалялі, узнікалі канфлікты.

Вырашэнне праблемы знайшлі самі мастакі, стварыўшы Мінскую гарадскую асацыяцыю вольных мастакоў і атрымаўшы дазвол на арганізацыю пастаянна дзеючай выставы-продажу. Агульнымі з гарадскімі ўладамі намаганнямі асацыяцыя стварыла больш-менш прыстойныя ўмовы для ўзаемных кантактаў мастакоў і пакупнікоў. "Вернісаж" набыў добрую славу месца, дзе можна параўнальна танна набыць падарунак для сяброў, падабраць прыгожую мініяцюру для ўласнай кватэры, парадаваць дзіця цудоўнай забаўкай-свістулькай. Не абмінаюць "Вернісаж" і замежныя госці.

Бо хто ж адмовіцца павезці з сабой цікавы сувенір на ўспамін аб Беларусі? Старшыня Мінскай гарадской асацыяцыі вольных мастакоў Міхась Канашэвіч расказаў, што зараз вырашаецца пытанне будаўніцтва спецыяльнай пляцоўкі і адміністрацыйна-гаспадарчага будынка для выставы-продажу.

Будзем чакаць новага "Вернісажу".

**Яўген КАЗЮЛЯ.**

НА ЗДЫМКАХ: на мінскім "Вернісажы"; разьбяр Валерый САМОЙЛАЎ не губляе часу — робіць новую вазу з бярозавага капа; вось такія персанажы ў барысаўскага мастака-кераміста Віталя ЖУРАЎКІНА; што выбраць?

**Фота аўтара.**







УРЫЎКІ З КНІГІ

# СВЕДКА

● **Вольга ІПАТАВА.**

Камісію, вядома, ніхто не захацеў. Затое акцыі маладога выкладчыка рэзка пайшлі ўгору. Ягоныя сябры радаваліся, некаторыя старэйшыя калегі сталі вітацца з падкрэсленай павагай.

Барыс уздыхнуў свабадней. Аднак бяссонніца пакінула яго не хутка. Усё яшчэ прачынаўся недзе пад тры гадзіны, шмат думаў пра падзеі і людзей, якія яго акружалі. На Піўной вуліцы гарэлі ліхтары, цёмны сілуэт Вострай Брамы лёгка ўгадваўся сярод маўклівых дамоў, блішчэла глянцавае каменне бруку. Вуліца тут загіналася і нібы прападала за камяніцамі. Вось так і ягонае жыццё. Што чакае наперадзе? Адзінота запалоньвала душу, і ён ратаваўся ад яе паэзіяй. Браў кніжачку, чытаў вершы. Дзіўна, што менавіта паэзіі, мастацтву часам адкрываецца невядомае, тое, што тоіцца глыбока ў чалавеку і чалавецтве. Але галасоў паэтаў не чуваць ва ўсеагульным азвярэнні, якое нападае часам на цэлыя народы. Тады пачынаецца вайна. Але, можа, ніколі больш не паўторыцца ў Еўропе тое, што было на пачатку стагоддзя? Успаміналіся снарады, з якіх яны, хлапчукі, здабывалі порах у час польскага адступлення. А да гэтага старэйшыя хлопцы рабілі гэтак жа ў час нямецкага наступу, а пасля таксама іхняга ж адступлення. Затым прыйшла Чырвоная Армія, пасля яна зноў адыходзіла, як і сама вайна. Яна, вайна, ні ў кога з мясцовых людзей не пыталася, ці хочуць яны яе, яна толькі патрабавала і забірала — хлеб, зерне, адзенне, жыццё... А яны, як трава, толькі гнуліся ніжэй, каб выжыць, ацалець. І так ад стагоддзя да стагоддзя... Што ж дзіўнага, калі ўжо нават не ўсведамляюць сябе як народ і даводзіцца стукацца ў кожнае сэрца, а яно часта і не хоча адгукацца: прывыкла не давяраць нікому, апроч сябе ды, можа, самых блізкіх.

О, каб быў ён вялікім паэтам, валодаў словам, ды так, каб прабіць скамянелы панцыр, што нібы скаваў народ. Хаця ж вось камуністычнай прапагандзе верачь, спадзяюцца, што прыйдзе нешта добрае з Усходу. Наўрад ці будзе нейкі ратунак адтуль, але каб дакладна ведаць, што там на самай справе ствараецца, якое грамадства і якая дэмакратыя, якой яшчэ нібыта не было на свеце. Няўжо і сапраўды якраз у гэтым стагоддзі і папраўдзе ажыццяўляецца мара чалавецтва, у тым ліку і многіх маладых, гарачых галоў і тут, у гімназіі? Але ўспаміналіся артыкулы ў газетах пра рэпрэсіі, арышты, і хацелася засцерагчы моладзь ад нечага страшнага, што нібы навісала над усімі. А пасля пачынала святлець неба, ён спрабаваў заснуць. Кароткія хвіліны трывожнага сну — і трэба было ўжо ісці ў гімназію.

А дні стаялі светлыя, сонечныя, яны нібы сцішалі чорны тлум роздумаў, дзе светлыя імгненні надзей нібы перапляталіся са змрочнымі хвілінамі недаверу. Польская прэса пісала пра трывожныя, а то і трагічныя падзеі ў Савецкім Саюзе, але ці было тое папраўдзе?

З уласцівым юнацтву захапленнем і прагай змяніць свет хацеў у тое верыць. Але нешта насцярожвала: занадта агрэсіўнымі, нецярпімымі да іншых здаваліся камсамольцы. Выкладчыкі спачувалі маладым людзям, якія трапялі пад падазрэнне і за якімі сачыла дэфензіва, але з кожным месяцам стараліся ўсё меней паказваць сваю прыязнасць: гэта рабілася ўсё больш небяспечным.

Можа, ад усяго гэтага моцна цягнула ў Навагрудак. Прыязджаў туды часта, каб дапамагчы вучням улетку здаць матуральныя экзамены. Бывала, браў з сабою калег з Віленскай гімназіі, каб навагрудцы атрымлівалі парады і кансультацыі па розных прадметах. Калі замяняў хворага Мілова, жыў на яго кватэры. Дырэктар Цеханоўскі, выкладчыкі гімназіі, асабліва Пётра Скрабец, сустракалі віленскіх калег з пашанай. Абедаць вялі ў рэстаран. Там пачціва абслугоўвалі іх афіцыянткі, шапталіся між сабою, гледзячы на прыгожага стройнага віленчука. Пыталіся, падаючы карту найперш яму: "Што пан прафесар жадае?" Вучаніцы ж гімназіі зусім жаночымі позіркамі ўпотай сачылі за Барысам, чырванелі, сустрэўшыся з ім поглядам, і часам малады выкладчык адчуваў сябе ніякавата.

Адной з лепшых вучаніц-выпускніц была худзенькая, з паходкай балерыны, танклявая Ліда Дзяковіч. Яе бацька, які працаваў у гарадской управе, на выпускны (матуральны) вечар запрасіў да сябе віленчука і выкладчыкаў гімназіі, распытваў іх пра сталіцу, частаваў. Сямейства — жонка, строгая кабета ў сукенцы з белым каўняром, сын і дачка — глядзела дапытліва, нібы прымервалі яго да сям'і. Другая дачка, Ліда, падавала стравы. Калі нахілялася над сталом, кранаючыся ягонага пляча, адчуваў, як млее гэтае дзяўчо. Але ён адчуваў сябе побач з ёю амаль старым. Да таго ж у яго думках была іншая...

...Лёс гэтай непрыгожай, але вельмі абаяльнай дзяўчынкі склаўся нешчасліва: падпарадкоўваючыся бацьку, выйшла за паліцэйскага суддзю, атрымаўшы ў пасаг гэты дом на Карэліцкай вуліцы. Але калі прыйшлі Саветы, муж быў

**Пачатак у №№ 36—38.**

МАЛДАЎСКІЯ ЎРАЖАННІ

# ПОЗІРК З ПЯТНАЦЦАТАГА ПАВЕРХА

**ІСНУЕ ЎСТОЙЛІВАЕ меркаванне: каб ацаніць значнасць гістарычных падзей, шматпланавай сітуацыі, трэба правільна вызначыць пункт адліку. Мая паездка ў Малдову была насычана такімі разнастайнымі сустрэчамі, уражаннямі, што няпроста было знайсці той ключавы момант, які б спалучыў і выявіў адпаведнасць афіцыйных і бытавых пунктаў гледжання. Такім пунктам адліку магла б стаць абаронча лінія ля моста праз Днестр, дзе захаваліся абрысы Прыднястроўскага ваеннага канфлікту; ці лагодны чэрвеньскі дзень, калі ў найпрыгажэйшым парку "Штэфан чэл Марэ" ў цэнтры Кішынёва адзначаецца дзяржаўнае свята нацыянальных культур, Дзень славянскага пісьменства; ці, нарэшце, чэргі ля хлебных магазінаў, якія давялося назіраць на ўласныя вочы... Але мне часцей за ўсё ўспамінаецца Кішынёў, якім ён бачыцца з пляцоўкі на даху пятнаццаціпавярховага дома.**

Гэта месца "адкрыў" мастак Вячаслаў Ігнаценка, а прывезлі мяне сюды кіраўнікі нацыянальнага аб'яднання Уладзімір Дзяржыцкі і Валерый Кез. Трапіць на імправізаваную пляцоўку можна з майстэрні, якую адладзіў сабе Вячаслаў. Памяшканне гэтае нельга назваць вельмі зручным, прыстасаваным, але яно плён яго ўласнай ініцыятывы і намаганняў, месца, якое прываблівае тых, хто цікавіцца жыццём малдаўскіх беларусаў. А сам Вячаслаў — сведчанне таго, што беларуская нацыянальная адметнасць не проста выкараняецца, што яна ўмее заваёўваць творчую прастору, сцвярджаць сябе ў іншародных умовах. Вячаслаў Ігнаценка — член Саюза мастакоў Малдовы, застаўся беларускім мастаком перш за ўсё па сваім светаўспрыманні: менавіта гэта вызначае і іншых нашых суайчыннікаў, якім выпала асесці ў гэтай краіне...

Беларусы ў Малдове не з'яўляюцца сталай этнічнай супольнасцю. У пераліку шаснаццаці нацыянальнасцей, якія тут жывуць, яны звычайна трапляюць у групу "іншыя". Сапраўды, нашых суайчыннікаў тут налічваецца ўсяго 20 тысяч. Прычым прыкладна палова з іх жыве ў Кішынёве, а палова ў Прыднястроўі. Роднымі гэтыя мясціны сталі для іх па волі вірлівага лёсу ў савецкія часы. Сюды яны прыязджалі будаваць, лячыць, вучыць, абараняць. Як ужо стала традыцыйным на постсавецкай прасторы, беларусы і тут змаглі заваяваць аўтарытэт, прызнанне як людзі надзейныя, памяркоўныя, чулыя. У Кішынёве аснову беларускай суполкі складаюць людзі больш сталага веку, у Прыднястроўі — маладзейшыя — пагодкі іх дзяцей.

Жыццё беларускай супольнасці — гэта зрэз практычна ўсіх праблем, што напаткалі краіну сёння. Самастойнасць Малдовы каштавала яе народу шэрагу балючых праблем. Не выпадкова ў час інтэрв'ю нашай газеце Прэзідэнт Малдовы Петру Лучынскі прызнаўся: рэформы праходзяць балюча, і словы ўдзячнасці чуць не даводзіцца (Г. Р. № 27). Хаця сам Петру Лучынскі сведчыць, што беларусаў у краіне, нягледзячы на іх нешматлікасць, шануюць. Яны слушна заяўляюць пра сябе ў нацыянальным рознагалоссі. Ды і сам кіраўнік краіны ў курсе спраў і жыцця беларускай супольнасці. Менавіта ён нагадаў, што падпісаў загад і асабіста ўручыў кіраўніку беларускай суполкі А. Дзяржыцкаму медаль "Мерэту чывік", як ганароваму грамадзяніну.

Гэтым летам упершыню быў праведзены фестываль этнакультур. Беларусы прынялі ў ім прыкметны ўдзел.

Трэба адзначыць, што ёсць "беларускі след" і ў кіраўніцтве краіны. Спікер парламента Дзмітрый Дзякаў скончыў факультэт журналістыкі Белдзяржуніверсітэта (дарэчы, мы аднакурснікі), тут, у Мінску, ажаніўся з беларускаю. Таццяна Дзякава ў ліку сяброў кішынёўскай беларускай суполкі.

У беларусаў Малдовы агульныя праблемы. Сёння гэта мяжа, якая падзяляе краіну на дзве часткі, — наступства да канца не вырашанага Прыднястроўскага канфлікту. Экалагічныя наступствы татальнай хімізацыі. Эканамічнае напружанне. Яго стварае, напрыклад, небяспека страціць жыллё, таму што з кожным месяцам расце запазычанасць па кватплаце. А пазбавіцца яе ніяк не атрымліваецца, таму што плата за жыллё часцей за ўсё ў некалькі разоў перавышае даход бюджэтнікаў ці пенсіянераў...

І ўсё ж не адчай і паніка валодаюць маімі новымі знаёмымі. Нават у людзей вельмі сталага ўзросту адчуваецца зайздроснае жыццялюбства, азарт, стваральная энергія. Уладзіміру Вайцяховічу далёка за семдзесят. Але ён да гэтага часу выкладае ў аграрным універсітэце, ліха водзіць уласную аўтамашыну "Волга". А яшчэ ... даглядае "прыватны" музей. Дапытлівы розум Уладзіміра Віктаравіча імкнецца адзначыць галоўнае, значнае, цікавае ў тым, з чым сутыкнула яго жыццё. У семнаццаць гадоў Уладзімір трапіў на фронт, ледзьве ачуняў пасля цяжкага ранення. І ўсё ж такі 21-гадоваму капітану Вайцяховічу пашчасціла выжыць.

Думка стварыць аматарскі музей 49-й гвардзейскай херсонскай стралковай дывізіі прыйшла ў 1957 годзе. Уладзіміра Вайцяховіча захапляў баявы шлях дывізіі і той факт, што на парадзе Перамогі ў Маскве ад яе прымала ўдзел дзесяць чалавек. Для музея ім і яго сябрамі-энтузіястамі быў зроблены спецыяльны павільён. А ў экспазіцыі выкарыстаны карты, схемы баявых аперацый і 350 здымкаў, якія зрабіў ваенны фотакарэспандэнт газеты "Известия" Анатоль Ламброз. Адразу ж музей ператварыўся ў клуб, дзе сустракаліся не толькі ветэраны вайны, але і студэнты навучальных устаноў Кішынёва, жыхары мікрараёна...

Здавалася б, Уладзімір Вайцяховіч назаўсёды ўрос у кішынёўскі побыт, змог тут рэалізаваць свае планы. Але як аказалася, думка вярнуцца на радзіму ў Беларусь пастаянна жыла ў свядомасці.

— Мне хацелася б хоць на сконе веку трапіць на Беларусь, — прызнаўся гэты сталы чалавек. — Ужо з жонкай былі сабраліся ў дарогу (яна таксама выкладае ў аграрным універсітэце), але тут выявілася, што нават калі прадаць усе рэчы, нам не хопіць грошай, каб вывезці галоўную каштоўнасць — бібліятэку, якая на працягу многіх гадоў збіралася нашай выкладчыцкай сям'ёй...

Потым неаднойчы даводзілася чуць ад маіх субяседнікаў пра сітуацыі, у якіх яны адчуваюць сябе палоннікамі абставін.

Што ж аб'ядноўвае і абнадзейвае беларусаў у Малдове? Пра гэта гаворка ў наступным матэрыяле.

**Наталля САЛУК.**

*Мінск—Кішынёў—Тыраспаль—Бендэры—Мінск.*



# СТАГОДДЗЯ

арыштаваны і недзе знік, а яна хутка памерла — ці то ад адчаю, ці то проста не змагла знайсці сабе месца ў новым, нязвыклым свеце... Але тады, седзячы ў ціхім утульным доме, ён ніякавата жартаваў, а сам у душы жадаў Лідзе шчасця і ўдачы...

У Калоніі Віленскай сосны калыхаліся каля самых вокнаў, зверху бачыўся суцэльны лес, з якога вытыркаліся востраверхія, на заходні манер, дахі. Калі бывалі свабодныя хвіліны, стаяў ля акна, углядаўся ў вуліцу, у дамы, нібы хацеў убачыць будучыню. Чаму няма на душы шчасця, хаця, здаецца, ёсць усё для таго, каб адчуваць паўнату жыцця? Ён малады, поўны сіл. Паважаны чалавек у грамадстве — выкладчык матэматыкі ў гімназіі. Жыве там, дзе не мог бы марыць нават завесці знаёмствы яшчэ дзесятак гадоў таму. Бацька ў вёсцы з гонарам расказвае, якая ў сына жонка, які дом, колькі ён зарабляе. Так, у параўнанні з катаржнай сялянскай працай на сваіх валоках — заробак яго неблагі. Чаму ж так шчыміць на душы, асабліва ў перадсвітальныя гадзіны, калі, прачнуўшыся, ён чуе, як, сонна заварушыўшыся недзе блізка ў кусце, спрабуе свой танюткі галасок нейкая птаха, спачатку нясмела, пасля ўсё больш настойліва? Прачнуўшыся на дасвецці, ён доўга ляжыць, не варушачыся, нібы вандроўнік, які напачатку ўспамінае, куды занёс яго лёс напярэдадні і дзе ён апынуўся.

Можа, прычынай гэты вечны цяжар на душы — заўтра закрыюць гімназію альбо яго выставяць за дзверы. Так, і гэта надае трывогі. А можа, справа ў тым, што такімі трывожнымі робяцца патроху газетныя паведамленні — немцы набіраюць сілу, ужо крычаць, што трэба вярнуць землі, якія цяпер належаць Польшчы, а значыць, магчымая вайна? А можа, справа яшчэ і ў тым, што ў маладосці так хочацца шчасця? А яно найперш не ў добрай кар'еры, а ў каханні. А каханне, якое нібыта захапіла яго, знікла некуды, як вось гэтая птушка, што, абудзіўшы іншых, сама замоўкла, нібыта паляцела некуды — можа, таксама шукаць шчасця?

Ці кахаў ён Галю? Відаць, не. Рэбеку — кахаў, моцна пакутаваў, калі жыццё развяло іх. Потым памёр Мікола Ілляшэвіч, і гэта ўдарыла па сэрцы з новай сілай. А пасля смерць дачушкі — яе маленькае цела ўжо, мабыць, растварылася ў зямлі — ненажэрнай, няўмольнай...

Ён слухаў, як не спіць, уздыхае Галя. Але не загаворваў з ёю. Маўчала і яна, і гэтае маўчанне адчувальна клалася між імі, нібы камяні. З кожным разам нібы вырастала тая нябачная сцяна між імі, здаецца, так нядаўна блізкімі і патрэбнымі адзін аднаму...

Цешча адчувала гэта, хадзіла па доме пахмурная, непрыветная, але нязменна — велічная. "Як Кацярына Другая", — па-хлапечаму гарэзліва мільгала часам параўнанне. Да яе падазрона часта стаў завітваць на гарбату нейкі ўдавец, хадзіў па дому, любаваўся ім, прыцмокваючы языком ад захаплення. Барыс аднойчы злавіў ягоны непрыязны погляд і ўпершыню падумаў, што Эмілія — мажная, грузная Галіна маці — усё яшчэ, нягледзячы на ўзрост, пачувае сябе жанчынай. Яшчэ, чаго добрага, узбаламуціць яе гэты пранырлівы ўдавец. І калі Барыс пойдзе ад Галі — што з ёю станецца? Ці зможа абараніць яе маці, ці не стане дарослая дачка ўвогуле перашкаджаць ёй? Злавіў сябе на думцы, што ўпершыню падумаў аб разводзе. Што ж, магчыма, гэта і адбудзецца, калі сцяна паміж імі не рухне. Але цяпер трэба падумаць пра жонку: кволая, ціхмяная, яна здаецца часам зусім дзяўчынкай, і раўнадушша да яе ўвесь час змешваецца са шкадаваннем...

Вырашыў умяшацца ў гэтую справу. Параіўся з хлопцамі-юрыстамі, і неўзабаве дом быў перапісаны на імя Галіны Швед, бо такім было завяшчанне нябожчыка гаспадара. Але цешча, даведаўшыся пра гэта, страшэнна абурылася. Некалькі разоў, вяртаючыся з працы, выслухоўваў Барыс яе "філіпікі", пры якіх пару разоў прысутнічаў і ўдавец. Але Барыс стаяў на сваім. І калі праз нейкі час, як праваліўшыся ў багну, знік гэты чужы чалавек, сама Эмілія Іванаўна мусіла прызнаць, што можа і меў зяць рацыю... Але ніколі не змагла ўжо яна дараваць яму тое, хаця і хваліла пасля дачцэ...

Аднак знешне ўсё здавалася непарушна-моцным. На святы менавіта сюды, у гэты вялікі, прыгожы дом, ехалі выкладчыкі гімназіі, і тады цешча, памаладзелая і амаль прыгожая ў сваёй велічнасці, ладзіла пачастунак, з асалодай слухаючы шчырыя пахвалы ў свой адрас. Сапраўды, яна магла тут паказаць сябе як гаспадыня, і яна старалася. Гэтыя вечарыны, відавочна, вярталі яе да часоў, калі тут яшчэ пры мужу таксама ладзілі святы, і госці гэтак жа радаваліся ўтульнасці дома і ёй, тады недасягальна прыгожай і патрэбнай.

— Не тое, што зараз, — часам, не вытрымаўшы, скардзілася яна, але госці дружна пярэчылі, і яна заспакойвалася, лагаднела.

У 1937-м годзе нападкі на беларускае дасягнулі такога напалу, што выкладчыкі гімназіі на сходзе вырашылі паслаць некалькі сваіх калег у Варшаву, каб там данесці да ўладаў становішча беларусаў. Вырашылі, што ў ліку трох дэлегатаў паедзе і Барыс Кіт. Кіт спрабаваў адмовіцца, але яму нагадалі, што ён знаёмы з сенатарам Зыгмунтам Бэчковічам дый умее гожа, прыязна абыходзіцца з людзьмі, што заўсёды прыцягвала ўвагу.

Едучы ў Варшаву, перабіралі ўсіх, да каго маглі б звярнуцца. Напачатку перамовіліся з сенатаркай Вандай Пэлчынскай. Яна, прынамсі, выказвала сябе ў выступленнях прыхільніцай беларусаў. Пані Ванда запрасіла да сябе дадому. Яна і муж — начальнік польскай разведкі — прынялі трох віленскіх "хадакоў" прыязна, сенатарка абяцала дапамагчы. Але іншыя, да каго даводзілася звяртацца, выслухоўвалі скаргі холадна, стараліся адгаварыцца няведаннем справы ды нежаданнем умешвацца ў палітыку. У міністэрстве таксама не жадалі слухаць пра беларускія справы — маўляў, усё робіцца па закону, чаго вы лемантуеце?

Прадчуванне, што гэтая цяжкая, невыносна доўгая паездка не прынясе ніякага плёну, спраўдзілася. Больш таго: амаль адразу дырэктара ўвогуле вызвалілі ад працы, перавёўшы настаўнікам матэматыкі ў Лодзь, а на яго месца паставілі Анцукевіча — панурага негаваркога настаўніка, які не асабліва выказваў свае погляды. Дырэктар жа, незадаволены скаргамі, стаў часцей ездзіць у Варшаву, і ўсе ведалі: ён дабіваецца, каб Беларуская гімназія была зліквідавана ўвогуле. Куратар Хадэцкі ва ўсім падтрымліваў дырэктара. Цяпер, прыязджаючы ўвосень з вакацый у Вільню, выкладчыкі з трывогай чакалі — а ці жывая яшчэ гімназія, ці не пакажуць ім на дзверы і з радасцю паведамяць, што паводле "законнага" распараджэння няма ўжо болей у польскай гімназіі імя Міцкевіча беларускага асяродка.

Барысу падавалася недарэчным і адначасова надта сімвалічным, што імя Міцкевіча — гэтага нашчадка беларускай, пазней апалячанай шляхты стала сімвалам першынства польскасці над кволай, за стагоддзі змізарнелай беларускай ідэяй. Прыходзячы ў гімназію, ваявода Бацяньскі амаль заўсёды голасна рабіў заўвагу наконт таго, чаму на сценах тут вісяць партрэты Янкі Купалы і Якуба Коласа.

— Тут павінны быць Міцкевіч і Славацкі! — злаваўся ён, і трэба было, стараючыся не паказваць гневу і абурэння, тлумачыць, што ў кожнага народа ёсць свае святыні, якія трэба аберагаць.

## ЖЫЦЦЁВЫЯ СЮЖЭТЫ



# БАБУЛІНА СПАДЧЫНА

● **Раман КАБЯК,** БелТА.

**Жыхарка вёскі Перакрэсце Ляхавіцкага раёна Ганна СМАРШЧОК захавала саматканае адзенне, якое сшыла яе бабуля яшчэ ў мінулым стагоддзі. Сама яна таксама рукадзельніца і ў вольны час любіць прасці.**

**НА ЗДЫМКУ: Ганна Кузьмінічна ў адзенні мінулага стагоддзя з унучкаю Ганнай.**

## ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

**Напярэдадні 10-гадовага юбілею "Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", напрыканцы вясны, Управа звярнулася да суайчыннікаў дыяспары з анкетай. У ёй было некалькі пытанняў: што значыць для замежных беларусаў узнікненне "Бацькаўшчыны", як ацэньваецца яе дзейнасць на працягу 10-ці год, як бачацца з далёкага і блізкага замежжа перспектывы арганізацыі і іншыя. Мы ўдзячныя ўсім, хто адгукнуўся на нашу анкету, агляд водгукаў на яе мы прапануем вашай увазе. Усе заўвагі, прапановы і пажаданні будуць арыенцірам у далейшай дзейнасці "Бацькаўшчыны".**

# АДЧУЛІ ВАШУ ПАДТРЫМКУ

● **Вацлаў МАЦКЕВІЧ**, *сябра Управы МГА "ЗБС "Бацькаўшчына".*

Кожны пражыты дзень — ужо гісторыя, а што казаць, калі мінула 10 гадоў. Такі адрэзак часу, асабліва, калі ён запоўнены штодзённымі, часам нават драматычнымі падзеямі, — гэта ўжо багатая гісторыя.

Такую багатую гісторыю мае "Бацькаўшчына". Узнікшы 10 гадоў назад на высокай хвалі Адраджэння, Згуртаванне беларусаў свету перажыло нямала бурных падзей. Вытрывала ў віхуры часу і сёння, нягледзячы на неспрыяльныя ўмовы, пачынаючы ад фінансавых і канчаючы ідэалагічнымі, працягвае сваю дзейнасць і смела глядзіць у далячынь новага стагоддзя. Самае галоўнае, што дае "Бацькаўшчыне" сілы працаваць, не апускаць рукі, — адчуванне сваёй НЕАБХОДНАСЦІ, ПАТРЭБНАСЦІ для беларусаў дыяспары. Гэтую думку пацвердзілі і шматлікія адказы на пытанні анкеты, разасланай напярэдадні нашага юбілею.

..."Без "Бацькаўшчыны" Беларусь была б значна бяднейшая, — піша старшыня Федэральнай Рады Беларускіх Арганізацыяў у Аўстраліі **Яўген Груша**, — а мы на эміграцыі не ведалі б пра беларускія арганізацыі на Калыме, у Казахстане ці Новасібірску... Ваша праца заслугоўвае асобай удзячнасці, бо "ЗБС "Бацькаўшчына" абудзіла беларусаў на ўсёй тэрыторыі былога Савецкага Саюза, і яны пачалі аб'ядноўвацца ў свае суполкі і арганізацыі. Гэтая такая важная праца будзе запісана залатымі літарамі ў Беларускай гісторыі..."

Нібы ў пацвярджэнне слоў Я. Грушы старшыня Рады беларускай суполкі "Світанак" у Кіргізіі **Н. Міронава** піша: "З вашай дапамогай у 1993 годзе была створана суполка "Світанак". За гэта вам вялікі дзякуй. Хаця мы знаходзімся ад вас далёка, але ў першыя гады пасля нашага аб'яднання ў суполку мы адразу ж адчулі вашу падтрымку і дапамогу."

Працэс "абуджэння беларусаў, пачаты дзейнасцю "Бацькаўшчыны" дзесяць гадоў назад, можна сцвярджаць, не спыняецца і сёння, хаця, вядома ж, ён не такі бурны ды імпэтны, якім быў напачатку.

На працягу толькі мінулага года Управа "ЗБС "Бацькаўшчына" неаднойчы разглядала пытанні аб прыёме ў сябры Згуртавання суполак з Расіі і Беларусі. Цяпер вось прыйшла новая заява. Старшыня Беларускага Аб'яднання ў Паўднёвай Аўстраліі **В. Кавалеўскі** піша: "Я адначасова з'яўляюся сакратаром Беларускага гістарычнага Згуртавання ў Аўстраліі. Разам са старшынёй БГЗ мы абмеркавалі пытанне аб сяброўстве ў "Бацькаўшчыне". Я складаю заяву аб прыняцці Беларускага гістарычнага Згуртавання ў Аўстраліі ў рады сяброў МГА "ЗБС "Бацькаўшчына".

Не толькі прыемная вестка! За гэтым фактам бачыцца давер да "Бацькаўшчыны", упэўненасць у яе плённай дзейнасці і сёння, і заўтра. І не толькі "Бацькаўшчыны". Беларусы ў Адэлаідзе ўпэўнены ў адраджэнні беларускага нацыянальнага руху на Бацькаўшчыне, сцвярджае В. Кавалеўскі. Падобная ўпэўненасць выказваецца ў многіх лістах суайчыннікаў.

Самай важнай падзеяй, самай карыснай і неабходнай акцыяй, праведзенай "Згуртаваннем "Бацькаўшчына", амаль што ўсе, хто адказаў на анкету, лічаць Першы з'езд беларусаў свету, які адбыўся ў ліпені 1993 года. "Правядзенне з'езду і ўзнікненне "Бацькаўшчыны" для мяне асабіста, — піша **Паўлюк Гуз**, старшыня БЦК у Вікторыі, — было як Уваскрэсенне Гасподняе, якое асвяціла і прабудзіла ўва мне надзею, што нарэшце Беларусь паўстае з небыцця і кліча да сябе сваіх дзяцей".

Для **Петруся Капчыка**, нашага суайчынніка з Украіны, узнікненне і дзейнасць "Бацькаўшчыны" — магчымасць мець сяброў-беларусаў ва ўсім свеце: у Бельгіі і Францыі, Канадзе і ЗША, Аўстраліі і Вялікабрытаніі, Польшчы, Эстоніі, Расіі. "Менавіта "Бацькаўшчына" аб'яднала нас як народ, раскінуты па свеце, — піша Капчык. — "Бацькаўшчына" клапоціцца, каб мы не растварыліся сярод іншых суграмадзян у краінах пражывання". Ацэньваючы дзейнасць "Бацькаўшчыны", наш суайчыннік адзначае: "Ніякая з іншых арганізацый у Беларусі так многа і так карысна не працавала на беларускую дыяспару, як "Бацькаўшчына".

"Бацькаўшчына" з'яўляецца патрэбнай і неабходнай арганізацыяй для ўсіх беларусаў, якія шануюць і любяць сваю Радзіму, свой народ. Гэтую думку, выказаную ў лісце **А. Шнэка** з Аўстраліі, падтрымліваюць усе без выключэння беларусы далёкага і блізкага замежжа, якія прыслалі свае адказы на анкету. І, вядома ж, яны жадаюць, каб МГА "ЗБС "Бацькаўшчына", якое лічаць сваёй арганізацый, трывала і надалей і выканала ўсе задумы і планы, што намечаны на гэты год, ды плённа дзейнічала ў новым стагоддзі. Калі ўзнікла "Бацькаўшчына", то ўпершыню з Мінска павеяла беларушчынай. І нашы суайчыннікі лічаць, што на захаванне беларушчыны павінна быць скіравана ўся дзейнасць "Бацькаўшчыны" на пачатку XXI стагоддзя.

ГАСЦЁЎНЯ




# ЮЛV — ЗАРАД ЭНЕРГІІ І ДОБРАГА НАСТРОЮ

**На ўваходзе вас сустракаюць сур'ёзныя, стыльна апранутыя хлопцы-ахоўнікі, правяраюць на наяўнасць халоднай зброі, наркотыкаў, спіртных напіткаў. Вас не пусцяць сюды, калі вам няма 18 гадоў, калі вы ў шортах, у абутку на босую нагу...**

**Куды ж я вяду вас! Пройдзем далей... і трапім пад шквал рытмічнай музыкі і неонавага святла. Гэта мы з вамі на начной дыскатэцы ў дыска-клубе "ЮЛV ". І сёння наша размова з уладальнікам дыска-клуба Яўгенам ШАРАШЭЎСКІМ.**

*— Дыска-клубы на Беларусі з'явіліся не так даўно: некалькі гадоў назад. А калі і як стварылася "ЮЛV"?*

— Ідэя клуба ў любым выпадку напрамую звязана з радыё Бі-Эй. Радыё Бі-Эй — мае першае дзецішча. Я закончыў тэатральна-мастацкі інстытут і доўгі час, ужо пасля арміі, пасля лялечнага тэатра, з 1979 па 1993 год працаваў рэжысёрам музычнай рэдакцыі Беларускага радыё. Вось адкуль усё і пачалося. Сёння клуб — прамоўтарскі цэнтр радыё Бі-Эй. Адкрыўся дыска-клуб 10 красавіка 1998 года.

*— Чаму "ЮЛV"?*

— Юла — гэта непаседлівасць, рух, хуткасць, што блізкае да танцаў, дыскатэкі.

*— Якая музыка гучыць на вашых дыскатэках?*

— Любая, практычна ўсе накірункі ахопліваем. Праўда, "рэйф", "хаўс", калі і прысутнічаюць, то толькі ў самым папулярным варыянце. На маю думку, гэтыя два накірункі ў музыцы цяжкія. Такую музыку можна слухаць толькі пасля якога-небудзь наркатычнага сродку. Наогул любая музыка — псіхатроп, а такая — асабліва моцны псіхатроп. У асноўным у нас гучаць хітовыя мелодыі.

*— І хто ж яны, аматары патанцаваць у "Юле"?*

— Звычайна прыходзяць да нас і 19, 20, 30, 40, 50...-гадовыя. Музыку мы ставім блокамі працягласцю ад 10 да 30 хвілін. Тут працуе дзі-джэй, які не дае сумаваць наведвальнікам, добра адчувае залу.

*— Раскажыце, калі ласка, як працуе дыска-клуб "ЮЛV"? Ці толькі начныя дыскатэкі вы праводзіце?*

— Працуем усе дні, акрамя панядзелка, з 10 раніцы да 6 гадзін раніцы. З 10 да 23 гадзін — як бар, кафэ. Вельмі нізкія цэны, амаль сталоўскія, а абслугоўванне рэстараннае. У нас сёння можна паабедаць за 1 долар ЗША (тысяча рублёў). Таму наведвальнікаў шмат. Беларуская, еўрапейская кухня. Зараз працуе так званая "Кухня бабулі Ксені": калдуны, дранікі, пельмені, селядзец пад футрам, іншыя стравы. Рыба ў розных варыяцыях, крэветкі. Ёсць фірменнае блюда — "ЮЛV", якое вельмі даспадобы нашым наведвальнікам. Яно складаецца з розных кампанентаў — ад мяса да экзатычных ананасаў.

З 23 гадзін вечара да 6 гадзін раніцы — начная дыскатэка. У пятніцу, суботу яе вядуць дзі-джэі радыё Бі-Эй Клаўс Мюлер, Саша Снегіна, Ірына Юзвак і іншыя. У іх свае праграмы, якія пастаянна мяняюцца. Былі такія, напрыклад: "Танцышманцы — рускі хіт", якую вёў Канстанцін Юманаў, "Часткі цела" вялі муж і жонка Пратасавы. Зараз "раскручваецца" новая праграма Сашы Снегінай і Ірыны Юзвак "Амазонкі".

З вясны гэтага года з 17 да 21 гадзіны ладзім дыскатэкі для падлеткаў (з 11 да 17 гадоў). Запрашаем папулярныя маладзёжныя гурты, напрыклад, "Лета", танцавальны калектыў у стылі "гоў-гоў" "Ток-форс". Прыходзіць не менш як 100 падлеткаў, у асноўным з блізкіх раёнаў.

Я лічу, што такія дыскатэкі, як наша, павінны быць у кожным раёне. Я ведаю, што тут падлеткі не вып'юць, не ўколюцца. Чаго не скажаш пра некаторыя іншыя дыскатэкі. За гэтым пільна сочыць ахова, а па-другое, спіртнога ў бары ў гэты час проста няма.

У нядзелю з 12 да 15 гадзін дзеткі ад 1 да 10 гадоў разам з бацькамі могуць прыйсці на дыскатэку "Юлька". Вядзе яе акцёр Валерый Мацкявічус, ён працуе ў нас ужо два гады і карыстаецца папулярнасцю: тры гадзіны ў касцюмах розных персанажаў праводзіць з дзецьмі конкурсы, гульні.

*— Яўген Уладленавіч, вы запрашаеце на начныя дыскатэкі эстрадных зорак? Ці ахвотна яны выступаюць на сцэне вашага клуба і каго вы ўжо прымалі?*

— Так. Мы запрашаем і будзем запрашаць эстрадных артыстаў. І яны ахвотна згаджаюцца. Гэта для іх рэклама, паралельна мы робім ім рэкламу і па радыё Бі-Эй. А выступалі такія расійскія зоркі, як Уладзімір Кузьмін, Валерыя, Аляксандр Разенбаўм, Крысціна Арбакайтэ, Лінда, Андрэй Рагожын і іншыя. Частыя госці — нашы беларускія зоркі: гурт "Песняры", Іна Афанасьева, Валерый Дайнека, Ляпіс Трубяцкой, Аляксандр Ціхановіч і Ядвіга Паплаўская, гурт "Лета". Праўда, варта нашым беларускім зоркам пабываць у Маскве, як адразу патрабуюць павелічэння ганарару.

Зараз я пачынаю новы тэатральны праект. Пастаўлены спектакль, клубны варыянт, па Дастаеўскаму.

*— Чаму звярнуліся да тэатра і чаму Дастаеўскі?*

— Сумую па тэатры. Па сутнасці, я вырас у оперным тэатры. Пачаў працаваць там з 6—7 класа ў масоўцы ў балеце, оперы. Потым — тэатральны інстытут, праца акцёрам у лялечным тэатры, радыё. Гэтая атмасфера ўнутры мяне, і нікуды ад яе не дзецца.

Я рос на рускай класіцы: Дастаеўскі, Чэхаў, Купрын, Бунін... Некалі маёй настольнай кнігай была "Майстар і Маргарыта" Булгакава. Да гэтага часу люблю літаратурную класіку. Але, на жаль, сёння на гэта захапленне застаецца мала часу.

*— Можа і рэжысёр спектакля вы?*

— Не. Хацелася б, але шмат іншых спраў, і на ўсё катастрафічна не хапае часу. Працую па 17-18 гадзін у суткі. Я запрасіў таленавітага рэжысёра з Тэатра юнага гледача Наталлю Башаву. Ужо адбылася прэм'ера спектакля па матывах Ф. Дастаеўскага "Чужая жонка, або Муж пад ложкам" — фантазія на тэму кахання і рэўнасці ў стылі танга... Выканаўцы — цудоўныя акцёры драматычнага, музычнага тэатраў, Беларускага акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы, Тэатра беларускай драматургіі.

Да выпуску рыхтуецца яшчэ адзін спектакль. Хачу, каб у рэпертуары было не менш 5—6 і кожны вечар людзі маглі прыходзіць па новыя ўражанні. Пасля спектакля — дыскатэка.

Яшчэ ў верасні адкрыў рэтра-рэстаран. Тут жа. Кожны вечар да 23 гадзін іграе вакальна-інструментальны ансамбль і гучыць музыка 70-х. Уваход — бясплатны.

*— Я бачу, што ў "Юле" ёсць більярд, акварыум з рыбкамі.*

— Так. Наогул, усё, што ёсць у клубе, — плён маіх асабістых фантазій. Я спрабую ўнесці сюды ўсё, што мне блізка, што падабаецца. Дарэчы, вельмі люблю розную жыўнасць. Раней трымаў сабаку, зараз — ката. А рыбкі былі са мною ўсё маё жыццё. У Кітаі бытуе павер'е, што ў дом, установу, дзе ёсць акварыум, абавязкова будуць прыходзіць людзі.

Гутарыла **Святлана КАРПУЧОК.**

Фота **Яўгена КАЗЮЛІ.**



*Сцэна са спектакля "Чужая жонка, або Муж пад ложкам".*

СМАЧНА ЕСЦІ!

## САЛАТЫ СА СВЕЖАЙ АГАРОДНІНЫ

**"ЦЕШЧЫН ЯЗЫК".** Кабачкі абабраць, парэзаць тонкімі лустачкамі (як стружка, імітацыя "язычкоў").

Памідоры пракруціць праз мясарубку разам з перцам (салодкім і горкім). Усё закіпяціць, пакласці кабачковыя "язычкі", алей, соль і цукар. Паварыць 30 хвілін, зрэдку памешваючы, дабавіць воцат і здроблены часнок.

Праз 5 хвілін каструлю зняць з агню і раскласці змесціва па слоіках, закатаць.

Салата выглядае незвычайна, а жартоўная назва толькі дабаўляе папулярнасці страве.

*На 3 кілаграмы кабачкоў — 3 кілаграмы памідораў, 5 штук салодкага перцу, маленькі стручок горкага перцу, 4 галоўкі часнаку, 250 мілілітраў алею, 100 мілілітраў 6-працэнтнага воцату, соль і цукар па смаку.*

**"ЗІМОВАЯ".** 5 кілаграмаў чырвоных памідораў, па 0,5 кілаграма цыбулі, часнаку, баклажанаў, салодкага перцу, морквы, буракоў, яблыкаў, 0,5 літра алею, 5 стручкоў чырвонага перцу, соль — па смаку.

Усё перакруціць на мясарубцы і тушыць 1,5 гадзіны, раскласці ў стэрылізаваныя слоікі і гарачымі закатаць.

**"ВІТАМІННАЯ".** Памідоры разрэзаць на 4 часткі, перац і цыбулю парэзаць кольцамі, моркву нацерці на тарцы. Усю прыгатаваную агародніну добра перамяшаць і тушыць 20—25 хвілін у марынадзе (300 грамаў алею, 100 грамаў солі, 300 грамаў цукру, пятрушка, кроп). У канцы дабавіць 180 грамаў воцату. Гарачую масу раскласці ў слоікі і закатаць.

*На 3 кілаграмы памідораў — 1 кілаграм салодкага перцу, 1 кілаграм цыбулі, 1 кілаграм морквы, 0,5 кілаграма каляровай капусты (па жаданні).*

КРЫЖАВАНКА

## ПЕРАКЛАДЗІЦЕ НА БЕЛАРУСКУЮ МОВУ



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ.** 3. Хозяин. 5. Помощь. 7. Собрание. 9. Шкаф. 11. Благодетель. 14. Топот. 17. Бахрома. 18. Конфета. 19. Уста. 20. Ответ. 24. Журнал. 25. Изразец. 26. Цифра. 30. Искусство. 32. Пресса. 33. Шёпот. 34. Завтрак. 35. Соцветие.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ.** 1. Восток. 2. Аромат. 4. Ковёр. 6. Уезд. 7. Грусть. 8. Тысячелистник. 10. Отчизна. 12. Полтинник. 13. Учитель. 15. Здание. 16. Бархат. 21. Пари. 22. Отчаяние. 23. Обращение. 27. Полынь. 28. Родственник. 29. Аист. 31. Шествие.

Склала **Любоў ЮНАВА.**

## АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ, ЗМЕШЧАНУЮ Ў № 38

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ.** 3. Панарад. 8. Пераклад. 9. Самацвет. 11. Галера. 12. Аблога. 13. Абсяг. 15. Карта. 17. Рупар. 19. Антэна. 20. Айчына. 24. Опера. 26. Аскет. 27. Тэрор. 28. Ангара. 29. Баркас. 32. Антонімы. 33. Басурман. 34. Артыкул.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ.** 1. Палац. 2. Ганак. 4. Перакат. 5. Скарга. 6. Гарбар. 7. Географ. 10. Паста. 13. Абанент. 14. Грэйдэр. 16. Тэнар. 18. Узнос. 21. Апанент. 22. Паром. 23. Пераказ. 25. Адрына. 26. Аракул. 30. Змора. 31. Фатум.


**«Голас Радзімы»**

**Галоўны рэдактар Наталля САЛУК**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь; Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі; Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом "Радзіма".

РЭДАКЦЫЯ:
Намеснік галоўнага рэдактара **Галіна УЛІЦЁНАК.**
Адказны сакратар **Таццяна КУВАРЫНА.**
Рэдактар аддзела — член рэдкалегіі **Яўген ЛЕЦКА.**
Рэдактар аддзела **Алена СПАСЮК.**
Аглядальнікі **Леанід МАРАКОЎ, Таццяна ХРАПІНА.**
Спецыяльныя карэспандэнты **Яўген КАЗЮЛЯ, Нэлі ПРЫВАЛАВА.**
Рэдактар-перакладчык **Святлана КАРПУЧОК.**
Стыльрэдактар **Ірына КАЗЛОВА.**
Тэхнічны рэдактар **Данута РАКАВЕЦ.**

НАШ АДРАС: 220005, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: (+375-17) 213-31-97 (тэл.-факс), 213-32-80, 284-76-56, 213-37-82.

Пазіцыі рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.
Падпісны індэкс у Беларусі 63854.
Тыраж 1 652 экз.
Зак. 2402.
Падпісана да друку 25.9.2000 г. у 12.00.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).